# НАВІНКІ Magazine



Інтрыга Новага 2004 году:

## Ці парадуе бацька новым рэфэрэндумам?

## ■ АД РЭДАКЦЫІ

***

Шаноўныя чытачы! Рэдакцыя газэты *Навінкі* радая вітаць вас на старонках гэтага часопісу. Нажаль, у бліжэйшы час не выпадае нам сустрэцца на звыклых газэтных палосах: падрыхтаваны да друку яшчэ ў верасьні 16-ы нумар газэты гэтак і ня ўбачыў сьвет – фактычна ўсе беларускія друкарні афіцыйна заказьліліся друкаваць *Навінкі*. Аднак замест таго каб ліць соплі, мы вырашылі зрабіць ход фярзём і вярнуцца туды, адкуль прыйшлі – у андэграўнд. Што праўда, прыйшлося гарбаціць цэлую восень перш чым канцэптуальна аформіўся *..Магазін* – ад плоці й крыві рэінкарнацыя газэты *Навінкі*. Гэты першы нумар часопісу, хоць і выходзіць пад Новы год, пераважна ўтрымлівае плады нашай восеньскай працы, у т.л. часткова й матэрыялы зь «віртуальнага» 16-га нумару газэты.

Аднак выдаваньня *..Магазіну*, які надалей будзе выходзіць штомесяц, нам падалося замала для таго, каб адпомсьціць за 16-ы! Аднаўляе сваю працу вэб-старонка www.navinki.net, якая ператвараецца цяпер у самастойны інфармацыйны інтэрнэт-рэсурс, а таксама будзе спрыяць для больш шчыльнага кантакту паміж рэдакцыяй і чытачамі. Акрамя таго зноў уздымае галаву «Navinki Home Video», бацька і маці фільму «Случай з пацаном» (2001), вынікі якога вы можаце заценіць ужо з гэтага выпуску. Так што пралічыўся той, хто паціраў свае вусатыя рукі – спакуха, хлопцы і дзеўкі, шоў маст гоў он, як гавораць.

А ў якасьці прэзэнтацыйнага сувэніру дарым вам партрэт нашага дарагога 16-га (на разгароце), каб вы маглі атрымаць пра яго хоць нейкае ўяўленьне. Паверце, ён быў добрым хлопцам...




















---




### Першая старонка:

Нядаўна Лукашэнка на пытаньне БТ пра магчымасьць рэфэрэндуму пра трэці тэрмін свайго прэзыдэнцтва заявіў, што ён «і без рэфэрэндуму мае шэраг сродкаў, каб захаваць сваю ўладу». Якія гэта сродкі, Лукашэнка не ўдакладніў. Паглядзім, што прынясе нам Год малпы...




### Апошняя старонка:

Як заўжды пасьля навагодніх сьвятаў асабліва прыбавіцца працы Сайкову, Хадоркіну ды іншым самазваным цаліцелям ад алькагольнай залежнасьці. Пакуль жа народ надае першасную ўвагу рэцэптам доктара Мароза...



www.navinki.net

# НАВІНКІ magazine

№1 (95), сьнежань 2003 г.

НЕЗАЛЕЖНАЕ ШТОМЕСЯЧНАЕ
ПАЛІТЫЧНА-ПАРНАГРАФІЧНАЕ ВЫДАНЬНЕ
Выдаецца зь лютага 1998 г.

**Заснавальнік і выдавец:**
Творчае аб'яднаньне «Навінкі»
**Галоўны рэдактар:** Паўлюк Канавальчык
**Тыраж:** 299 экз.
**Адрас для карэспандэнцыі:**
п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ
**E-mail:** navinki@navinki.net














## ■ ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ НАТАТКІ

Падзеі гэтай восені сталіся як ніколі напружанымі для калег прэзыдэнта А.Лукашэнкі ў іншых краінах г.зв. «блізкага замежжа». Для беларускага ж бацькі яны могуць насіць у шмат чым і павучальны характар: прааналізаваўшы ход гэтых падзеяў, можна зрабіць шэраг карысных высноваў, каб не паўтараць чужых памылак, а дзе-нідзе й пераняць перадавы досьвед...

### Грузія:

## Рэвалюцыя «руж»

«Аксамітная рэвалюцыя», пра якую так доўга марыць беларуская апазыцыя, адбылася ў Грузіі: у выніку шматдзённага супрацьстаяньня ўлады і апазыцыі Эдуард Шэварнадзэ афіцыйна пакінуў пасаду прэзыдэнта краіны. Аднак нягледзячы на тое, што звонку грузінскія падзеі разыгрываліся паводле югаслаўскага сцэнару, «стары ліс» Шэварнадзэ і тут усіх надурыў: улада ў выніку г.зв. «рэвалюцыі руж» перайшла ў рукі былых членаў прэзыдэнцкай каманды. Ніно Бурджанадзэ, Міхаіл Саакашвілі і Зураб Жванія падчас нарастаньня незадаволенасьці ў грамадстве палітыкай прэзыдэнта «своечасова» перайшлі ў апазыцыю і ўмудрыліся яе ўзначаліць. Кажуць, што Шэварнадзэ ўжо нават падзяліў пасады паміж сваімі былымі паплечнікамі: адному ён «напрарочыў» пасаду прэзыдэнта, другому – спікера парлямэнту, а трэцяму – крэсла прэм'ер-міністра.

А ДАВАЙЦЕ ЗГУЛЯЕМ У ЦІКАВУЮ ГУЛЬНЮ: У «РЭВАЛЮЦЫЮ»! ЧУР – Я ПРЭЗЫДЭНТ!

***<u>Зь дзёньніка А.Р.:</u>***
***«От Эдзік даёт! Хто ж уласьць так проста аддаёт! Дажэ есьлі і быўшым жаўтаротым саратнікам.***
***P.S. Кстаці, нужна пабольшэ ўніманія ўдзяляць сваім «верцікальшчыкам», а ўдруг і срадзі ніх паявілісь ахотнікі паіграцца ў дземакрацію і рэвалюцыю!»***

### Туркмэністан:

## Туркмэнбашы на лінейку не прыехаў




Візыт бацькі ўсіх туркмэнаў у нашую краіну, які быў заплянаваны на канец лістапада, так і не адбыўся. Сапармурат Ніязаў у апошні момант вырашыў ня ехаць на госьці да свайго беларускага калегі. Мяркуюць, што адным з пытаньняў беларуска-туркмэнскай сустрэчы ў вярхах павінна было стаць перайманьне досьведу па выкараненьні апазыцыйных настрояў у грамадзтве (у Туркмэністане апазыцыі ўвогуле няма!). Пажыцьцёвы прэзыдэнт краіны, Трукмэнбашы вядомы ўсяму сьвету найперш сваім «цудоўным пазбаўленьнем сівізны за адну ноч», вершаваным ідэалягічным творам «Рухнама», вывучэньне якога – абавязковы прадмет у школах і ўнівэрсытэтах, а таксама будаўніцтвам самага вялікага коннага манэжу (дарэчы, конь зьяўляецца афіцыйным сымбалем Туркмэністану). Відаць, няскончаная будоўля й прымусіла тамтэйшага бацьку застацца асабіста кантраляваць пытаньні на радзіме.

***<u>Зь дзёньніка А.Р.:</u>***
***«Вот уважаемы чалавек – пажызьненны празідзент! А мне так відна прыдзёцца с эцімі рэфярэндумамі а прадленіі палнамочый каждыя пяць лет мучыцца... Да, і сваю «Рухнаму» нада дапісаць, а то маі «акадземікі» такі не дапірают, у чом жа састаіт смысл беларускай гасударственнай ідзеалогіі, прыдуркі.»***

### Расея:

## Чорны перадзел

Скандал вакол кампаніі «Юкас» даўно ўжо перакрочыў межы Расеі, а імя алігарха Хадаркоўскага ператварылася ў своеасаблівы сымбаль мучаніка за расейскую дэмакратыю супраць паўзучага аўтарытарызму. Нягледзячы на ўсе намаганьні адміністрацыі У.Пуціна выдаць усё гэта за барацьбу з карупцыяй і крыміналам, даўно сталася відавочным – «крыжовы паход супраць алігархаў», якога прагне шараговы расеец, насамрэч проста чарговы перадзел маёмасьці і, адпаведна, палітычных уплываў вакол Крамлю. Доказам гэтаму могуць служыць і апошнія выбары ў Думу, куды ўвайшлі толькі «правільныя» алігархі. Расейскім жа дэмакратам застаецца толькі плакацца, што пуцінская Расея пераарыентоўваецца на беларускую мадэль разьвіцьця.

***<u>Зь дзёньніка А.Р.:</u>***
***«Ну, Воўка, ты і плагіатар! Я сваіх алігархаў ішчо ў серадзіне 90-х пакоцаў. І «верцікаль» между прочым я тожэ первым прыдумаў! Пара мне ўжэ абраціцца ў камісію па зашчыце аўтарскіх праў. Ілі ўродзе сначала нужна аформіць сярціфікат?..»***




### Азэрбайджан:

## Сын за бацьку

Ільхам Аліеў – першародны сын былога азэрбайджанскага першага сакратара кампартыі, а потым і прэзыдэнта краіны Гейдара Аліева – стаў першым на постсавецкай прасторы афіцыйным нашчадкам трону. І хаця ўся працэдура перадачы ўлады была разыграная паводле апрабаванай і стандартнай схемы – бацька-прэзыдэнт прызначае сына спачатку прэм'ер-міністрам, неўзабаве той становіцца часовым выканаўцам абавязкаў прэзыдэнта, а потым усенародна «выбіраецца» паўнавартасным бацькам нацыі – гэта зьяўляецца своеасаблівым прэцэдэнтам і ўзорам для іншых «бязьзьменных лідэраў». Нягледзячы на шырокія й масавыя пратэсты азэрбайджанскіх домашаў і ганчарыкаў наконт шматлікіх падтасовак і парушэньняў падчас галасаваньня, зафіксаваныя дарэчы і эўрапейскімі




назіральнікамі, бліжэйшы саюзьнік Баку – Расея прызнала вынікі выбараў сапраўднымі. Так што неўзабаве можна чакаць на прасторах СНД цэлай хвалі перадачы ўсёй паўнаты дзяржаўнай улады ў спадчыну – дзякуй богу, нашы прэзыдэнты ня церпяць на бясплодзьдзе. Праўда, трэба яшчэ многа папацець, каб выпрацаваць больш-менш легітымную працэдуру спадкаемнасьці і заступленьня на прэстол прэзыдэнцкага вотпрыска, мінаючы фармальнасьці выбараў. І Беларусь гэта тычыцца ў першую чаргу: калі ў Пуціна ў сямействе адны дочкі, то як быць нашаму бацьку, які мае не аднаго, а адразу двух сыноў?

***Зь дзёньніка А.Р.:***

***«Да-а, задачка... Старшаму штолі страну завяшчаць? Так младшы абіжацца на міня будзет, я ж яво тожэ люблю... А, падзялю па чэснаму: Віцьку паўцарства, і Дзімку тожэ палавіну. Штоб ня сорылісь. І Мінск тожэ на палавіну – па Сьвіслачы. Сталіца как-нікак, папробуй каво-нібудзь із эціх у Шклоў выправадзі! Нужна даць указаніе саатвецтвующы дзікрэт падгатовіць, на ўсякі случай.»***

Літва:

## Каму «Юкас», а каму – «Юкасас»




«Пасьля 12 гадоў незалежнасьці прыйшоў час адмовіцца ад успрыманьня Расеі як імпэрыялістычнай дзяржавы», – заявіў неяк прэзыдэнт Раландас Паксас. Аднак, як высьветлілася пазьней, прэзыдэнт досыць своеасабліва разумеў уласнае міралюбнае выказваньне: гэта азначала продаж на ільготных умовах кантрольнага пакету акцыяў літоўскай нафтапрамысловасьці ўсё той жа славутай кампаніі «Юкас». Першымі забілі трывогу прадстаўнікі амэрыканскай кампаніі, якая таксама прэтэндавала на гэты тлусты кавалак і гатовая была адваліць грошай паболей за расейцаў. Аднак тэндэр чамусьці «выйграў» менавіта «Юкас». Цяпер Паксас абвінавачаны ў карупцыі й сувязях з расейскай мафіяй, а парлямэнт Літвы прызначыў адмысловую камісію па расьсьледаваньні ўсіх фінансавых справаў прэзыдэнцкай адміністрацыі. Гэта на выхадзе можа азначаць толькі адно – Паксасу пагражае імпічмэнт.

***Зь дзёньніка А.Р.:***

***«Этат Паксас лох рэдкасны, хто ж так дзяла дзелает! У міня эці юкасы-шмукасы да газпромы ўсе парогі пааббівалі, тожэ хацят на нефць лапу налажыць. Но я с эцім строга – сказаў два с палавінай лімона, значыт два с палавінай...»***

Украіна:

## Як стаць зоркай

Апошнія пару гадоў рэйтынг Леаніда Кучмы трымаўся стабільна ніжэй калена. Кожны паважаны ўкраінскі палітык, ад камуністаў да нацыяналістаў, лічыў справай гонару даць прэзіку славеснага пендаля: маўляў, журналістаў забівае, краіну маскалям прадае і г.д. Колькі ні біліся піаршчыкі Кучмы над падвышэньнем іміджу свайго боса – усё марна. Але, як кажуць, не было б шчасьця, ды няшчасьце памагло. Як па заказу – тэрытарыяльны скандал з Расеяй. Будаўніцтва расейскай дамбы з Таманскага паўвострава ў бок украінскага вострава Тузла была ўспрынятая ў Кіеве як пасягальніцтва на сувэрэнітэт Украіны. На хвалі патрыятычнага ўздыму рэйтынг Кучмы ў імгненьне вока зноўку заняў верхнія радкі ўкраінскага палітычнага хіт-параду. Так што, дзякуй «паганым маскалям»!




***Зь дзёньніка А.Р.:***

***«Падумаеш, адкрыў мне Амерыку! Да я і сам, калі нада, с Крамлём магу паругацца! Ну так,.. панарошку, для прафілакцікі.»***

Малдова:

## Прывід фэдэрацыі

Заскарузлая праблема Прыднястроўя справакавала апошнім часам новае напружаньне ў малдаўскім грамадзтве, стварыўшы чарговыя траблы прэзыдэнту краіны Ўладзіміру Вароніну. Выбух незадаволеньня ў тамтэйшай апазыцыі выклікаў расейскі плян урэгуляваньня прыднястроўскага канфлікту, што прадугледжвае ператварэньне Малдовы ў фэдэратыўную дзяржаву. Варонін, які спачатку пагадзіўся на рэалізацыю гэтага пляну разам зь лідэрам прарасейскіх прыднястроўскіх сэпаратыстаў Ігарам Сьмірновым, пад ціскам Эўрапейскай Супольнасьці адмовіўся ад яго выкананьня «да прыняцьця рашэньня самой Эўропай». Аднак, як кажуць, не гавары «гоп!», калі ўжо пераскокнуў – на вуліцы Кішынёва вывалілі натоўпы народу з патрабаваньнем адправіць у адстаўку «камуняку» Вароніна.

***Зь дзёньніка А.Р.:***

***Во гдзе варона гэты Варонін, румын пленны! Я б с эцімі сепарацістамі і апазіцыанерамі ў два шчоты б справіўся. Жалка, што нету ў нас какова-нібудзь мяцежнага Прыдняпроўя ці Прыпрыпяцьця...»***

*Как мне абустроіць сынавей*




***«А сынаўям сваім Дзімку і Віцьку завяшчаю: Правясьці гасударственную граніцу между сабой па Вілейска-Сьвіслацкай воднай сісьцеме.»***




## Выцьвярэзьнікі вяртаюцца

Амаль год Беларусь праіснавала без аднаго з самых славутых сымбаляў эпохі разьвітага сацыялізму – выцьвярэзьнікаў. Пакаштавалі алкашы свабоды – і хопіць. У адным з апошніх выступаў А.Лукашэнка зьвярнуў увагу на неабходнасьць вяртаньня выцьвярэзьнікаў і ЛТП. Прычым зрабіць іх трэба самаакупнымі (сацыялізм-та ў нас рынкавы!). І гэта яшчэ кветачкі, пладова-ягадкі яшчэ на падыходзе. Зь лёгкай рукі галоўнага цьвярозьніка краіны пастаўленыя на ўлік пацыенты прафілякторыяў у хуткім часе будуць задзейнічвацца ў сельгасработах, уборцы вуліц ды іншых карысных працах. Кліенты выцьвярэзьнікаў будуць атрымліваць паведамленьне на працу, дзе з заробку будзе вылічвацца сума за начлег ды іншыя паслугі. Так што, шаноўныя, глядзіце з кім п'еце.

## Кашэрная сьвініна зь Беларусі?

**Сёньня кожны школьнік ведае асноўныя прынцыпы дзейнасьці транснацыянальных карпарацыяў: «Ну, гэта, перанос шкодных вытворчасьцяў у краіны Трэцяга сьвету і выкарыстаньне тамтэйшай таннай працоўнай сілы, во!» Не абмінула гэтая бяда і нашу родную старонку. Пасьля ўступленьня новых сябраў у Эўрасаюз адтуль патокам хлынулі да нас рознага кшталту бізнэс-прапановы: то цацак вундэркіндам нарабіць, то «кока-колу» разьліць, то дацкай каралеўскай гвардыі касьцюмчык справіць. А тут чарговы заманлівы гешэфт. У шэрагу краінаў па патрабаваньні змагароў за правы жывёлаў зачыніліся шхіты – спэцыяльныя скатабойчыя прадпрыемствы па вытворчасьці кашэрнага мяса. «І вы пытаеце мяне што мы будзем рабіць? Дык паедземце ў Беларусь!»**




**І сапраўды, неўзабаве на радзіме Шагала будзе пабудаваны цэнтар, дзе будуць гадаваць каля 4000 цялят. Па словах кіраўніка Юдзейскага рэлігійнага аб'яднаньня Ю.Дорна, прафінансуюць гэты праект яўрэйскія бізнэсмэны з краінаў Эўропы. Але, шаноўныя айчынныя майстры сякеры, скотнікі і забойшчыкі, не сьпяшайцеся радавацца новым працоўным вакансіям у замежнай канторы. Асабліва падкрэсьлім, што кашэрным лічыцца мяса жывёлы, якая была забітая паводле адмысловых канонаў і інструмэнтаў (звычайны электрашокер або граната тут не падыйдзе). А таму працаваць там будуць адмыслова падрыхтаваныя хлопцы з Эўропы і ЗША. І толькі потым плянуецца стварыць у Беларусі ўласную школу.**

## Сала – сьвятое!

Хаця да парлямэнцкіх выбараў у Беларусі яшчэ цэлы год, апазыцыя ня сьпіць у шапку й стварае разматыя перадвыбарчыя блёкі і кааліцыі. І, безумоўна, не сакрэт, што трэба пераймаць досьвед у гэтай справе ад расейскіх і ўкраінскіх калег. Днямі ў Вярхоўную Раду Украіны ўнесены законапраект, які прадугледжвае пакараньне за... зьнявагу сала! Згодна праекту сала будзе лічыцца нацыянальным сымбалем Украіны і будзе прыроўненае да дзяржаўнага сьцягу, гербу і гімну. Сапраўды, лёзунг «Руки геть від сала!» як нішто пасуе мэнталітэту нашых паўднёвых суседзяў. Нашым жа апазыцыянэрам таксама трэба хуценька зарганізаваць рух за прызнаньне бульбы афіцыйным нацыянальным сымболем – паверце, гэта знойдзе ў душы электарату большы рэзананс, чым енкі пра парушэньні правоў чалавека, свабоды слова і г.д. – тады, лічы, перамога на выбарах у кішэні і дыктатуры поўны капец! Улады вядома ж таксама будуць рабіць контармеры: тут сам сабой напрошваецца дэкрэт «Лічыць ужываньне чаркі й шкваркі ўсуе пасягальніцтвам на гонар і годнасьць прэзыдэнта Беларусі».

## Інтэрнэт неўзабаве возьмуць пад дзяржаўны кантроль




Усе гэтыя траблы свабоды прэсы, пра якія так доўга казалі меншавікі, неўзабаве могуць мець свой непасрэдны працяг. Як паведамляе «Беларуская асацыяцыя журналістаў», у Міністэрстве інфармацыі РБ поўным ходам ідзе распрацоўка новага закону аб СМІ, у якім, між іншых драконаўскіх мер па ўзмацненьні кантролю над мас-мэдыямі, мяркуецца ўвесьці абавязковую рэгістрацыю... інтэрнэт-сайтаў! Якім чынам будзе ажыцьцяўляцца кантроль над «нелегальнымі» сайтамі пакуль што невядома. Аднак з пэўных крыніц вядома, што кампэтэнтныя органы ўва ўсю прамацваюць тэхнічны бок справы, шукаючы магчымасьці для своечасовага блакіраваньня «нячэсных» сайтаў. Так што Беларусь рызыкуе стаць другой краінай пасьля Кітаю, дзе доступ у сусьветнае павуціньне WWW будзе цалкам дазіравацца дзяржавай, або чарговай Паўночнай Карэяй, дзе Інтэрнэту, як і сэксу, увогуле няма






## Хавайце грошы – будуюць тэлевежу!

Некалі славуты Астап Бэндэр хваліўся, што ведае 100 спосабаў законнага адбіраньня грошай у грамадзянаў. Беларускі ўрад знайшоў 101-ы. Рэцэпт аказаўся прасьцей за параную рэпу: трэба проста абвесьціць якую-небудзь чарговую грандыёзную будоўлю Веку і ў дабраахвотна-прымусовым парадку сабраць з грамадзянаў сродкі на яе ажыцьцяўленьне. Маўродзі з «Гербалайфам» адпачываюць! Спачатку справай гонару кожнага беларуса было раскашэліцца на будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі. Цяпер, калі байка пра бібліятэку не канае, у Лукашэнкі зьявілася новая фішка – пабудаваць у Менску тэлевізійную вежу, якая мала чым будзе саступаць славутай Астанкінскай. Што будзе вяшчаць гэтая супэртэлевежа з нашым тэлебачаньнем – загадка. Аднак ня гэта галоўнае. Факт, што нас чакае чарговае дзяржаўнае разводзілава а-ля «будуем усім мірам», так што хавайце вашы грошыкі куды падалей – у прэзыдэнта яшчэ шмат ідэяў!

## Мядзьвежая паслуга ад брата-бусьліка

Нечаканая катастрофа расейскіх дэмакратычных сілаў на нядаўніх выбарах у Дзяржаўную Думу азадачыла ня толькі Нямцова з Хакамадай. Ня жарт – старыя корышы нашых тутэйшых дэмакратаў з тамтэйшых Саюзу правых сілаў і аб'яднаньня «Яблоко» ня толькі не мінулі 5-працэнтны бар'ер паводле партыйных сьпісаў, але й аблажаліся па большасьці аднамандатных акругоў! Гэта азначае, што новы склад Думы – дзе пераважную большасьць месцаў заняла прапуцінская «Адзіная Расея», падзяліўшыся «па-братэрску» з камуністамі, ЛДПР і шавіністычнай «Радзімай» – начыста пазбавіўся г.зв. «прабеларускага» (вядома ж, з пэўнай доляй іроніі) лобі. Наўрад ці хто цяпер знойдзецца ахвочы, каб нахаляву патрышчаць па думскім тэлефоне зь Лябедзькам наконт «новых схем» узьяднаньня Расеі і Беларусі. Але як бы каму ні падавалася, у разгроме фанабэрыстых расейскіх лібэралаў на гэты раз Чубайс акурат ні пры чым! Проста напярэдадні выбарчай кампаніі ў Расею рванулі прадстаўнікі шэрагу беларускіх апазыцыйных арганізацыяў, каб плённа папрацаваць на кандыдатаў ад СПС і «Яблока», а заадно паднабрацца досьведам па правядзеньні пераможных выбарчых кампаніяў. Але на месцы, відаць, атрымалася наступная летальная мэтамарфоза: замест таго, каб вучыць беларусаў розуму, расейскія калегі па дэмакратычным стане... пераймалі практычны досьвед нашай апазыцыі як можна, маючы прадстаўніцтва у парлямэнце і ўплыў ва ўрадзе, прахерыць выбары ў нуль!







## «Эўрасаюз нерушымы...»

Меў рацыю Бацька, калі сьцьвярджаў: «Ну ня можа наш народ жыць без Саюзу!» Нарэшце інтэграцыйную рыторыку вырашыла на поўную катушку выкарыстаць і беларуская апазыцыя. Пакуль Лукашэнка развучвае правільна ўжываць словы «незалежнасьць» і «сувэрэнітэт», дэмакратам належыць папрактыкавацца ня дзёргацца пры слове «саюз». 1 лістапада шэрагам дэмакратычных арганізацыяў была заснаваная г.зв. «Эўрапейская кааліцыя», галоўная мэта якой – як мага хутчэйшая інтэграцыя Беларусі ў «Саюз нерушымы краінаў Эўропы...» Маўляў, што мы, горш за прыбалтаў? Што праўда, выраз «Я за Саюз!» як палітычны прызнак цяпер згубіў сваю былую адназначнасьць і ўжо патрабуе канкрэтызацыі «За які? Савецкі, з Расеяй або Эўра-?», а лексіка абодвух бакоў стала падобная як дзьве кроплі сьпірту: Саюз, інтэграцыя, адзіная валюта...

## Страсьці па адзінай валюце

На пачатку восені Швэцыя і Беларусь ненадоўга ператварыліся ў геапалітычных сясьцёр-блізьнятак. Калі першая мела неасьцярожнасьць некалі ўступіць у Эўрасаюз, то другая навязьліва імкнецца да Саюзу з Расеяй. Нядаўнія ж падзеі дадалі яшчэ адну паралель. І для Швэцыі, і для Беларусі ўвесь верасень прайшоў пад знакам разборак вакол увядзеньня-неўвядзеньня адзінай валюты. Аднак, калі ў Сінявокай працэс перамоваў не выходзіў па-за рамкі гандлю аб кампэнсацыях і льготах, на радзіме Карлсана дайшло да таго, што невядомы маньяк-эўраскептык прышыў у адным з супэрмаркетаў Стакгольму галоўную прапагандыстку ўвядзеньня эўра, міністра замежных справаў Швэцыі Анну Ліндт. Невядома, ці паўплывала гэта на канчатковы вынік рэфэрэндуму, аднак швэды хуценька знайшлі істотную пагрозу свайму дабрабыту, калі б эўра стаў валадарыць у швэдзкіх кашальках, ды сказалі адзінай валюце гучнае «не». Што да Беларусі, то можна было б і нам мачкануць дзе-небудзь на Жданах высокапастаўленага прыхільніка расейскага рубля. Пытаньне, як?



■ МІЖНАРОДНЫ РЭЗАНАНС

# МАЛЫШ І КАРЛСАН

## ПЕРШАЯ КРОЎ

























У мяне на раёне акурат адчыніўся новенькі супэрмаркет. Там гэтага варэньня – заваліся!


Ты што, хочаш скрасьці варэньне ў супэрмаркеце?!
SUPERMARKET
EURO
YA!
PIDER PRICE


Мы ненадоўга пазычым адзін слоік. Потым аддадзім!


SALE
Куды б яшчэ супусьціць свае апошнія 5 эрэ перад перамогай эўра?


ШУХЕР, КАРЛСАН! Нейкая цётка руліць!


А-А-А-А
МАЛЫШ! ТРЫМАЙ СЛОІК! Эх, варона, гэта маё самае любімае варэньне!..




Ну вось, разьбілі! Ды яшчэ нейкую кабылу прыбілі... А ўсё ты, шухер-шухер. А, ерунда, справа жыцейская!
Гэта была твая ідэя тырыць па супэрмаркетах! Цяпер паліцыі панаедзе...


Фу, які ты гадкі, Малыш! Я ж для нас з табой стараўся!
І ўвогуле, нешта засядзеўся я з табой! Зараз напэўна ўжо кубак чэмпіёнаў пачынаецца...


Па тэлевізары перадалі, што забілі галоўную агітатарку за эўра Анну Ліндт
Вы што?! Відаць, гэта справа рук эўраскептыкаў–экстрэмістаў
Так?.. Нешта мне не здаровіцца, не да рэфэрэндуму.

*Выведзеная стабільная заканамернасьць паміж успрыняцьцем электаратам іміджу палітыкаў і прадукцыяй аўтагігантаў*

# Палітыкі – аўтамабілі:



Станіслаў Шушкевіч, паводле меркаваньня відных беларускіх палітолягаў, німнога-німала – «Мэрсэдэс». Праўда, за гады эксплюатацыі, кажуць, ён здорава нечым заляпаўся і па ім даўно ўжо плача аўтамыйня...

Пакуль *Навінкі* знаходзіліся ў вымушаным адпачынку, беларуская паліталягічная думка падалася далёка наперад. Зьявіліся й прынцыпова новыя падыходы да аналізу грамадзка-палітычных парацэсаў. Асаблівы ўнёсак у разьвіцьцё айчыннай паліталёгіі зрабіў нядаўны вязень, а цяпер вядомы палітычны дзеяч Андрэй Клімаў. У кнізе-гутарцы-эсэ Яўгена Агурцова *Тот самый Климов* герой кнігі заяўляе літаральна наступнае:

***«Шушкевич как «мерседес». Какой бы грязью или чем-нибудь еще его ни обмажь – «мерседесом» он и останется».***

Аўтар, праўда што, так і не ўдакладніў, што ён меў на ўвазе пад загадкавым «чем-нибудь еще», але так ці йнакш А.Клімаў зрабіў сапраўдную рэвалюцыю ў прыкладных палітычных навуках. Ягоны мэтад, які мы ўмоўна назавем «палітычны тэхагляд», здольны праліць сьвятло на некаторыя грамадзка-сацыяльныя заканамернасьці й тыя працэсы, якія ідуць на беларускай палітычнай сцэне (або, што будзе дакладней, – у палітычным дарожным руху). У аснову паліттэхагляду пакладзеная аксіёма, што кожны палітык на ўзроўні сваіх глыбінных псыха-маторных функцыяў нагадвае пэўны транспартны сродак. Прычым у сваім штодзённым жыцьці палітык не абавязкова адкрыта аддае яму перавагу, аднак на падсьвядомым узроўні мае да яго ўцiснуты нэйралягічны сэнтымэнт і мала таго – экстрапалюе тэхнічныя характарыстыкі свайго транспарту-аб'екту на свае палітычныя паводзіны.

Такім чынам, калі С.Шушкевіч, паводле меркаваньня мэтра паліталёгіі Клімава, зьяўляецца, хай і не 600-м, але «мэрсэдэсам», дык якія яшчэ «тачкі» мы можам знайсьці ў беларускім палітычным аўтапарку?

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА,**
**старшыня партыі БНФ**



Больш нагадвае патрыманы Volkswagen Golf 1988 году выпуску. Тачка яшчэ добрая, на хаду, аднак з тэхабслугай апошнім часам шмат марокі. Маладыя хуліганы ўвесь час прабіваюць шыны, а аднаго разу нават зьнялі колы. Так што даводзіцца езьдзіць на таксі.

**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА,**
**гуру аб'яднаных дэмакратаў**



Тыповае прыватнае таксі. Праўда, на шасі маднючага Peugeot. Прыпынецца перад любым галасавальшчыкам. Пэўнай таксы няма, але калі дамовіцеся, павязе ў любы бок. Бэнзыну заўжды не хапае, таму любая паездка — праз АЗС «Лукойл».

**СЯРГЕЙ КАЛЯКІН,**
**генсек Партыі камуністаў**



Безумоўна ВАЗ-2101, славутая «капейка» — ружовая мара любога савецкага абываценя часоў «застою». Днішча ад часу ўжо праржавела, фарба паабсыпалася. Тым ня менш, «капейка» — спроба пабудовы эўрапейскага «Фіяту» ў асобна ўзятай краіне.

# Хто ёсьць ху ў беларускім палітычным аўтапарку?

**МІКОЛА СТАТКЕВІЧ,**
**адзін з сацыял-дэмакратычных бонзаў**



Звычайны вайсковы УАЗік, які прэтэндуе на званьне беларускага «джыпу». Хоць і мае вялікі аўтапрабег, тым ня менш сярод паплечнікаў па дарожна-апазыцыйным руху крытыкуецца за 4-хуткасную каробку перадач.

**СЯРГЕЙ ГАЙДУКЕВІЧ,**
**лідэр мясцовых лібэрал-дэмакратаў**



Сярод сваіх калегаў па палітычным аўтапарку цягне хіба што на матацыкал «Ява» з каляскай. Любіць езьдзіць у аб'езд, таму на калдобінах трохі пааббіўся: глушаку ўжо няма, ланцуг часам спадае, але затое мала жрэ бэнзыну на кілямэтар.

**АЛЯКСАНДАР РЫГОРАВІЧ,**
**проста прэзыдэнт**



Мяркуючы па руху на палітычнай шашы — трактар «Беларус». Ня гледзячы на сваё сельскагаспадарчае паходжаньне, цяпер часта лётае па сталічных дарогах у якасьці цягача або бульдозэра. Стопрацэнтовая прахадзімасьць на прававым бездарожжы.

[illegible]АРЭЦЬ

# Пэнсійна

## Дапамажы

***Дадзена:***
*[illegible]орва састарэлых [illegible]хіляўшчыкаў, што нахабна прэтэндуюць на пэнсійнае забесьпячэньне, колькасьць якіх расьце ў арыфмэтычнай прагрэсіі.*

***Знайсьці:***
*Якім чынам можна зьнізіць колькасьць прэтэндэнтаў на дзяржаўныя пэнсіі, каб сэканоміць грошы для будаўніцтва Нацыянальнай Бібліятэкі?*

Скажыце, як мне прайсьці ў «сабес»?

**Пляны беларускага ўраду па рэформе пэнсійнага заканадаўства набылі шырокі рэзананс у нашым грамадзтве, баламуцячы некаторыя несьвядомыя элемэнты. Не пасьпела сьціхнуць усенародная эйфарыя наконт увядзеньня адзінай пэнсійнай страхавой карты для кожнага грамадзяніна, дык на табе, бабка, новае ноў-хаў. Нядаўна Міністэрствам эканомікі акрэсьленыя новыя гарызонты па рэфармаваньні пэнсійнай сыстэмы – падвышэньне максымальнага пэнсійнага ўзросту да 65 гадоў. Такое ўражаньне, што ўлады зацiскаюць для старыканаў кроўна заробленыя капейкі.**

**Аднак у чыноўнікаў ёсьць свой рэзон. Маўляў, на працягу апошніх пяці гадоў у [illegible]арусі «катастрафічна рэзка» павялічылася [illegible]касьць пэнсіянэраў. У мінулым годзе іх [illegible] 2,5 млн., а ў гэтым дасягнула 2,6 [illegible] і іх колькасьць у далейшым будзе [illegible] павялічвацца.**

**[illegible]му ж улады асьмеліліся замахнуцца на [illegible]ю сьвятых свайго электарату – [illegible]нэраў? Ці ёсьць нейкія іншыя [illegible]натывы, каб выратаваць сытуацыю, [illegible]лалася? Давайце разгледзем магчымыя [illegible] вырашэньня гэтай задачы.**



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# Я КАТАСТРОФА: прэзыдэнту вырашыць задачку

## Спосаб 1. Брутальны. «Адстрэл пэнсіянэраў»




Самы просты спосаб вырашыць усе праблемы – проста пазбавіцца ад гэтага сацыяльнага баласту. Дарэчы, у некаторых народаў існавала такая практыка ў дачыненьні да сваіх састарэлых продкаў: небаракаў-бацькоў іхныя вялікаўзросныя дзеткі проста кідалі ў лесе на міласьць лёсу, дзе тыя й адкідваліся бяз пэнсіі й сацыяльных гарантыяў (Для прыкладу прыгадайма хаця б беларускую народную байку «Бацькаў дар», па матывах якой праворлівыя японцы зьнялі славуты фільм «Легенда аб Нараяме»). Сёньня акурат той час, каб зноў вярнуцца да каранёў і прыгадаць запаветы продкаў. Усіх, хто дасягнуў пэнсійнага ўзросту й разявае варажку на халяўныя дзяржаўныя сродкі, можна проста дэпартаваць у Белавескую Пушчу на зьядзеньне зубрам. А каб старыканы там асабліва не размнажаліся можна пачаць прадаваць спэцыяльныя паляўнічыя ліцэнзіі на адстрэл пэнсіянэраў ды іншых сацыяльных утрыманцаў. Дарэчы, тут і прамая выгада для дзяржаўнага бюджэту.

## Спосаб 2. Гуманістычны. «Працэдуры амалоджваньня»




Калі вы сердабольны маладзён 49-ці год або проста рамантык-навуковец, можна пайсьці іншым шляхам. У наш век кланіраваньня і генэтычных тэхналёгіяў можна замарочыцца на сынтэзе славутага «элексіра маладосьці», што трымціць у мозгах чалавецтва, відаць, зь першых памінак па Адаму і Еве. Калі экспэрымэнт удасца, то беларусы будуць вечна маладымі й моцнымі, як паганскія богі нашых дзядоў. А адпаведна ні пра які «пэнсійны ўзрост» ня можа быць ніякага базару: толькі дасягнуў запаветнага юбілею, мэдыкі тут як тут – упрыскваюць табе якую касторку або калёсы – і зноў як у 17 год.




## Спосаб 3. Рэалістычны. «Падняцьце пэнсійнага ўзросту»

Ну а як не хапае духу, каб катаваць сваіх «чарапоў», ды й грошай, каб фінансаваць досьледы ў галіне сродкаў вечнай маладосьці, то дзяржаве застаецца адно: арыентавацца на перадавы досьвед эўрапейскіх краінаў ды з году ў год падвышаць пэнсійны ўзрост. Дарэчы, гэтаму працэсу можа ня быць канца. Як сьведчыць афіцыйная статыстыка, у Беларусі пражывае больш за 900 пэнсіянэраў, якім перавалiла за 100 гадоў. Уяўляеце сабе абібокаў?! Першыя 50 гадоў яны нібыта вучыліся й працавалі, а наступны палціньнік – сядзяць нага на нагу ды чакаюць, калі прыйдзе супрацоўнік райсабесу з новай порцыяй дзяржаўнай халявы. Такой паразытычнай практыцы даўно пара пакласьці канец. Як толькі крытычная маса працаздольных грамадзянаў будзе выходзіць на фінішую прамую да пэнсіі, дзяржава хуценька падвышае планку пэнсійнага ўзросту яшчэ на парачку гадкоў.

# X-fil

*У Беларусі існуе незвычайны палітычны альянс: пяць ідэалягічна варожых партыяў аб'ядналіся ў адзіны перадвыбарчы блёк. Аднак для палітычна ангажаванай публікі застаецца таямніцай галоўнае: Якую ж агульную мэту можа мець гэтая «пяцёрка»?*

Ідэя аб'яднаньня дэмакратычных палітычных партыяў і арганізацыяў у адзіную апазыцыйную кааліцыю старая, як сама дыктатура. Рэзон зразумелы: аб'яднаемся разам – і зьвернем аўтарытарнаму рэжыму шыю. Аднак вось дзіва, апазыцыя нібы зачараванае люстэрка – як ні яднаецца, увесь час разьлятаецца на дробныя аскепкі. Прыгадаць хаця б спробы стварэньня Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў, КРДС, КСАПП, нарэшце, вылучэньне адзінага кандыдата ў прэзыдэнты... І кожным разам у чарговай кааліцыі мільгацяць усё тыя ж знаёмыя ўсе твары. Гэтым разам цяжар інтэграцыі на свае кволыя грудзі ўзвалілі пяць ідэйна разнамасных і рознакалібэрных партыяў: БНФ, АГП, шушкевіцкая БСДГ, Партыя працы і Партыя камуністаў, якія абвесьцілі аб фармаваньні «адзінага сьпісу» кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на выбарах 2004 году. Што ж прымусіла сесьці за адзін стол прадстаўнікоў розных палітычных спэктраў і якая галоўная мэта гэтага аб'яднаньня? Вось тут і нараджаецца цэлая плеяда крыватолкаў і чутак наконт сапраўдных мэтаў новай Антанты.

## Перамога на выбарах?

Першае, што прыходзіць у галаву – жаданьне ўдзельнікаў «пяцёркі» разжыцца новенькім дэпутацкім мандацікам. Аднак тут ужо многія аналітыкі зьвярнулі ўвагу на той факт, што наяўнасьць камуністаў і нацыяналістаў у адным карыце ставіць пад пытаньне ня толькі перамогу на выбарах, але трываласьць такога шлюбу ўвогуле. Сапраўды, цяжка сабе ўявіць, як сябры БНФ зьбіраюць подпісы за «паганага камуняку-сталініста», у якога рукі па локаць у крыві раскулачаных і рэпрэсаваных, або як бабулькі ПКБ-шніцы агітуюць за «махровага нацыяналюгу», чый бацька сто працэнтаў быў паліцаем.

## Алімпійскія гульні?

«Галоўнае не перамога, галоўнае – удзел». – кажа асноўны алімпійскі прынцып. Маўляў, падумаеш без мэдалёў, затое па целеку паказвалі! Магчыма, удзельнікі «пяцёркі» таксама кіруюцца алімпійскім прынцыпам: на пярэдадні выбары, і як ні круціся, а ўдзельнічаць прыйдзецца. На перамогу ніхто не спадзяецца (вядома ж, дыктатура, ціск КДБ, адміністрацыйны рэсурс і г.д.), таму можна аб'ядноўвацца хоць з чортам. Затое ёсьць усе шанцы засьвяціць сябе і назву сваёй партыі ў каляровых агітацыйных улётках і інтэрнэт-зводках ды чарговы раз нагадаць электарату пра сваё гераічнае існаваньне.

## Канкурэнцыя за тытул?

Нагадаем, што «пяцёрка» – не адзіны ў краіне блёк. Нядаўна канчаткова аформілася г.зв. Эўрапейская Кааліцыя «Свабодная Беларусь», заяўленая яшчэ ў сярэдзіне лета, якая таксама ня супраць велічацца «аб'яднанымі апазыцыйнымі сіламі». Вядома ж, выбарчыя кампаніі дэмакратычных кандыдатаў будуць добра фінансавацца, таму стварыць сваю катку, ды яшчэ праславіцца палітыкам-аб'яднаўцам Усяе Апазыцыі, скрайне неабходна. Маючы ў сваім складзе прадстаўнікоў ад лева да права, «пяцёрцы» можна з пэўнасьцю разьлічваць на сымпатыі спонсараў і тытул «Адзіная апазыцыя» (у адрозьненьні ад тых «адшчапенцаў», што не далучыліся).

## Шырма для махінацыяў?

Выбары – гэта ўрадлівы сэзон для ўсялякага кшталту махлярства й кідалава. Таму шмат недабразычлівых сьцьвярджаюць, што сапраўднай мэтай «пяцёркі» зьяўляецца прага да лёгкай нажывы. Маўляў, хочуць зрабіць выгляд шырокай перадвыбарчай актыўнасьці, а насамрэч пад шумок адмыць замежныя грошыкі. Падобная афэра будуецца па прынцыпу МММ: пакуль цікуць грошы – фірма («пяцёрка») ёсьць; грошы нахапалі – фірма бясьсьледна зьнікае (маўляў, «пяцёрка» распалася з-за «ўроджанага ўнутранага антаганізму» паміж камуністамі й нацыяналістамі). А потым шукай-блукай, хто вінаваты ў раскраданьні касы.

**?** Дык дзе ж ісьціна? Вядомым змагарам за дэмакратыю агентам Фоксу Малдэру і Дане Скалі дадзена заданьне знайсьці загадкавую канчатковую мэту «пяцёркі» і адкрыць ісьціну для вас, шаноўныя чытачы, а таксама для прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша, які зьбіраецца выпісаць чэк на трыюмф дэмакратыі ў Беларусі, але ня ведае на чыё імя яго даслаць...






# eS: ІСЬЦІНА НЕДЗЕ ПОБАЧ





















10 САКРЭТНЫ ОФІС «ПЯЦЁРКІ»

Трэба знайсьці дакумэнты, якія могуць праліць сьвятло...

Малдэр, адчуваеш? Пахне керасінам... Нешта мне гэта не падабаецца.

Нехта там варушыцца. Я праверу. Скалі, прыкрый мяне.

11

12

Гэй! Ёсьць хто жывы?

13

А-а-а! За «Свабодную Беларусь»! А-а-а!..

Падобны выпадак самазагараньня быў у Аклахоме. Тут дакладна нейкая анамальная зона

14

15

Якое жахлівае самагубства! Відаць, паміж «пяцёркай» і «Свабоднай Беларусьсю» ідуць нейкія разборкі.

16

Скалі, знайшоў! Вось яны, тыя дакумэнты, што мы шукаем! Глянь, нейкія незямныя каракулі...

17

Падобна да банкаўскіх рахункаў... Усё зразумела!

«Пяцёрка» рыхтуе грандыёзную афэру падчас выбараў! Місія выкананая, можна расслабіцца. Дарэчы, а дзе тут туалет?


18
!!! О, бог мой... МАЛДЭР!!!
Ня трэба было столькі піва піць...


19
Я верыў!.. Я хацеў у гэта верыць! Дык бяз вас усё ж не абыйшлося?!
Ушчыпні мяне, Малдэр, ня веру сваім вачам!...


20
Мы адчувалі, што рана ці позна вы дакапаецеся да ісьціны й нападзеце на наш сьлед. Што ж...
Па заданьні мінабароны сыстэмы Сырыюс мы праводзім навуковы экспэрымэнт па скрэшчваньні несумяшчальных палітычных поглядаў, каб даведацца, чаго ад вас, зямлянаў, можна чакаць. Беларусь у гэтым сэнсе вельмі ўрадлівае поле для досьледаў. Дык вось, «пяцёрка» – гэта наш падвопытны гібрыд.


21
Камандзір, пара дамоў!


22
Але ўсё адно вам ніхто не паверы-ыць!


23
Цяпер усё зразумела. Мэта «пяцёркі» – праверыць палітычна-парапсыхічную ўстойлівасьць гома сапіенсаў перад блізкай іншаплянэтнай інвазіяй!
Віншую, Малдэр! Вось цяпер місія выкананая. Шэф будзе задаволены! Дарэчы, а дзе тут усё ж такі туалет?


24
Вось толькі сапраўды... Нас за псіхаў часам ня прымуць?..

## ■ НАПЕРАД У МІНУЛАЕ!

***Як кажа народ: «Узяўся за гуж – не кажы што чачэн». Сёньняшні БРСМ, назваўшыся пераемнікам «камсамолу», проста абавязаны ляпіць сваё жыцьцё з пакаленьня Паўкі Карчагіна.***

Спробы ўлады накласьці свой перст на маладое пакаленьне беларусаў часам зьдзіўляе сваёй яўнай непасьлядоўнасьцю: з аднаго боку наш «малады» прэзыдэнт хоча выглядаць заўжды маладым і сучасным, гэткім плэйбоем з глянцавых часопісаў, з другога ж настойліва грукаецца ў старыя вараты, імкнучыся рэанімаваць камсамол у новых штоніках – на гэты раз джынсе. У сваіх намаганьнях стварыць агульна-нацыянальную праўрадавую моладзевую кантору, якую сама моладзь даўно трапна ахрысьціла «лукамолам», дзядзькі ў гальштуках узялі за аснову прыснапамятны ВЛКСМ узору эпохі позьняга застою. Маладзёнаў па старой завядзёнцы паводле загадзя спушчаных «зьверху» разнарадак пачкамі заганяюць у БРСМ, шырока выкарыстоўваючы палітыку «бізуна і лізуна»: згодным прапануюць ільготы на рытуальныя паслугі і г.д., нязгодным абяцаюць праблемы пры паступленьні ў ВНУ, завалы сэсіяў і траблы ў інтэрнатах. Усё гэта, вядома, наўрад ці выклікае вернападданьніцкі энтузіязм ня толькі ў

ВОКН



1. Мабіла ў дэбіла,
Ноўт-бук яму што мёд.
Хопіць лайдачыць –
ідзі на завод!



4. Мы паўтараць гатовы зноў
Далоў папоў! Папоў

Бр-самольцы!
запісвайцеся
дабраахвотнікамі
ў армію!

# Ы РОСТА-2



2. Чытаўшы Глёбуса і Сіна
Народ пазбавіш керасіна!
Як прачытаеш аж два раза –
народ застанецца бяз газу!




3. Каб модным быць –
Адзеньне скінь!
Прэч трусы,
шкарпэтка – згінь!







маладых «дысыдэнтаў», але й патэнцыйных сябраў БРСМ. Каб неяк выправіць сытуацыю і ўдыхнуць трохі жыцьця ў сваё дзецішча, «лукамольцам» варта б браць прыклад не ў 80-х гадах – калысцы сёньняшніх партакратаў ад БРСМ, а менавіта ў рамантычным 1918 годзе – дату, якую так урачыста адзначылі ў кастрычніку сёньняшнія патомкі Паўкі Карчагіна. І можна быць пэўным, што тагачасныя камсамольцы не касілі ад арміі па ўніверах, а дабраахвотна запісваліся ў Чырвоную Армію ды йшлі гарбаціць на заводы. Кім жа былі камсамольцы зары савецкай улады і як трэба паводзіць у сучасных умовах іхным нашчадкам, каб адпавядаць высокай назьве пераемніка ВЛКСМ? Паспрабуем даць невялічкую інструкцыю для сябраў БРСМ у выглядзе самага што ні на ёсьць камсамольскага кшталту нагляднай агітацыі ў 1918-1923 гадах – славутых «Окон РосТА», якія дапамогуць правільна арыентавацца ў тым, што ад цябе патрабуе Прэзыдэнт.

**1. Барацьба з нэпманамі:** Адной з задач камсамольцаў-20-х было супрацьстаяньне рознага кшталту праявам старога рэжыму, якому садзейнічаў нэп. Сучасны лукамолец абавязаны не сьвяціць мабілай і дабраахвотна адмаўляцца ад карыстаньня парткамаўскімі льготамі.

**2. Змаганьне з буржуазнай літаратуршчынай:** Любімым заняткам камсамольцаў было ачышчэньне ад «старой» клясычнай літаратуры й сьцьвярджэньне новай. Сябры БРСМ ужо сёньня абавязаныя правесьці пару паказальных працэсаў над перараджэнцамі ад бел-літа – эротаманам А.Глёбусам, псэўдапаэтамі Сінам, Вішнёвым і інш. (Дарэчы, пуцінскія нэакамсамольцы з «Идущих вместе» ўжо правучылі калёным жалезам славутага порналітаратара Сарокіна.)

**3. Сэксуальная рэвалюцыя:** Яшчэ задоўга да эпохі хіпі менавіта камсамольцы паднялі пытаньне аб полавым разьняволеньні, і праводзілі голыя маніфэстацыі «Далоў сорам!». БРСМ трэба ўвесьці ў практыку масавыя оргіі. Для сябраў БРСМ на лукамолак зьніжкі ў адпаведнасьці з тарыфным раскладам.

**4. Далоў папоў:** Замест таго, каб заляцацца з Філарэтам і іжэ зь ім, БРСМ павінна зрабіць пару рэквізыцыйных рэйдаў па цэрквах на карысьць будаўніцва Нацыянальнай бібліятэкі.

**5. Даеш продразьвёрстку:** Антыпрадпрымальніцкі запал прэзыдэнта павінен быць падтрыманы новым пакаленьнем – трэба дапамагаць уладам зачыняць шапікі і камкі.



## ■ ГУДОК

### Ганьба дэкадэнтам і абстракцыяністам!




Убачыўшы такога кшталту наглядную камсамольскую агітацыю, Мікіта Хрушчоў у свой час надаваў бы такому гора-агітатару лапцем па пысе. Між тым перад вамі прапагандысцкі плякат БРСМ «Почувствуй эпоху!», якім залепленыя ўнівэрсытэцкія сьцены сталічных ВНУ. Аднак пагадзіцеся, ну каго можа прыцягнуць такая афішка, акрамя як не кіслотніка-пачаткоўца, які прыняў афішу за рэкляму навамодных «калёс», або кончанага тарчка, што прачытаў у раскосых вачах абдоўбанай гірлы антынаркаманскі лёзунг: «Можа табе час завязваць?». Думкі ж пра запаветнае ўступленьне ў БРСМ ён дакладна не выклікае. Ну а калі ў «лукамольцаў» ніяк не выходзіць «з адчуваньнем эпохі», можа сапраўды БРСМу час павярнуцца тварам да сваіх каранёў і не выдумляць ровар ды скарыстацца спадчынай ВЛКСМ. Глядзіш, і нешта недзе атрымалася б...



ЧТО ДАЛ БРСМ
РАБОТНИЦЕ и КРЕСТЬЯНКЕ

■ **INTERNATIONAL DIGEST**

## Палякі знайшлі ў Іраку новую французскую зброю




**Польскія вайскоўцы: «Мы забыліся дадаць, што гэтыя французскія ракеты 2003 году вытворчасьці, але да нашай эры...»**

Скандал вакол знойдзенай польскімі «міратворцамі» французскай зброі 2003 году выпуску, якая паступіла на ўзбраеньне арміі Садама акурат перад акцыяй «Свабода Іраку», прымусіў афіцыйны Парыж шукаць самыя галімыя адмазкі.




## Іракскі супраціў нарастае

**«Шэф! А калі ў нас нарэшце дзембель?»**

Вашынгтон у шоку: пасьля афіцыйнага абвяшчэньня аб заканчэньні вайсковай апэрацыі армія ЗША згубіла ў Іраку больш салдат, чым падчас баявых дзеяньняў. Між тым, колькасьць аматараў загасіць чужаземнага акупанта толькі нарастае: сярод ахвотнікаў і прыхільнікі былога дыктатара, і шахіды славутай «Аль-Каіды».

## Адміністрацыю Буша-малога абвінавачваюць у некампэтэнцыі

**Надпісы на дошцы: «У вышуку: Асама, Садам, зброя масавага паражэньня (WMD), праца, уцечка інфармацыі зь Белага Дому, асадка прэзыдэнта *(выкрэсьленае)*»**
**Буш: «Я знайшоў сваю асадку!»**
**Памочнік: «Вось бачыце? Нашы справы паляпшаюцца...»**




Чым бліжэй да выбараў прэзыдэнта ЗША палітыка адміністрацыі Буша падвяргаецца ўсё большай крытыцы. Прычыну няўдалай стратэгіі як унутры краіны, гэтак і на зьнешнепалітычным полі многія схільныя шукаць у бліжэйшым атачэньні прэзыдэнта. Справа ў тым, што Буш-малодшы падабраў у сваю каманду тых кадраў, якія тусаваліся ў Белым Доме яшчэ пры ягоным бацьку. Сёньня акуратяны і задаюць тон палітыкі Вашынгтону й пры сынку. Аднак вотпрыск усясільнага бацькі забыўся, што Буш-старэйшы не застаўся на другі тэрмін, нягледзячы нават на пераможную «Буру ў пустыні».

## Міністар замежных справаў ЗША абвінавачаны ў махінацыях дадзенымі па Іраку

**Дональд Рамсфілд прыбіральшчыцы: «Якое сьмецьце?»**

Ня гледзячы на чуткі, што прэзыдэнт Дж.Буш нібыта «сваіх не здае», Беламу Дому прыйдзецца ахвяраваць адным са сваіх галоўных «ястрабаў вайны». На яго й павесяць усіх сабак за няўдачы ЗША ў Іраку.




## Інфармацыйныя тэхналёгіі на службе ў цэнзуры

**Піаршчык Белага Дому рэпарцёрам: «Гэй, глядзіце! У Багдадзе адчыніўся «Бургеркінг»! Цяпер ГЭТА галоўная навіна для вас!!!»**

Занепакоены патокам сумных навінаў з Іраку, Вашынгтон намагаецца стварыць ілюзію нармалізацыі жыцьця ў гэтай акупаванай краіне. На дапамогу прыходзяць новыя пі-ар тэхналёгіі, якія ў сучасную інфармацыйную эпоху рызыкуюць стаць рэінкарнацыяй славутай цэнзуры.



## Пуцін знайшоў корыша ў Эўропе

**Папа рымскі: «Тысячы чачэнскіх сьмерцяў – гэта нядобра, Уладзімір».
Пуцін: «Што ён меліць, гэты папа?»
Бэрлусконі: «Папа ёсьць папа. Не бяры да галавы, зь ім часта такое здараецца, але яго ўсё адно ніхто ня слухае».**




Расейскі прэзыдэнт У.Пуцін абзавёўся новым верным сябрам у Эўропе – ім аказаўся прэм'ер-міністар Італіі С.Бэрлусконі. Той ужо ня раз падпісваўся перад эўрапейскай і міжнароднай супольнасьцю за свайго ўсходняга калегу ў справах, ня вельмі прыемных для гаспадара Крамлю. Бэрлусконі ўмудрыўся апраўдаць «антытэрарыстычную апэрацыю» ў Чачні і афіцыйна падтрымаў Пуціна ў скандальных разборках вакол «Юкаса».



## Хавайся ў рыс: кітайцы ў космасе!

Тое, чаго так доўга баяліся ў свой час савецкія бальшавікі стала рэальнасьцю – унукі Мао пабывалі на арбіце Зямлі. Тое, што гэтая падзея адбылася аж праз 42 гады пасьля палёту Ю.Гагарына, ні пра што яшчэ ня сьведчыць. Факт застаецца фактам – Кітай стаў трэцяй краінай у сьвеце, пасьля Расеі і ЗША, якая ў стане запускаць людзей у космас. Чым выйдзе ў будучым выхад жыхароў Паднябеснай на прасторы Сусьвету? Можна з пэўнай доляй упэўненасьці чакаць, што празь нейкіх два-тры гады будзе заснаваны Чайна-таўн на Марсе і як мінімум пара рэчавых рынкаў на Месяцы і Вэнэры.

## Удзельнікаў аргентынскай хунты чакае лава падсудных

**Гэнэрал-путчыст – ахвяры дыктатуры: «Хопіць варушыць мінулае. Настаў час усім аргентынцам пацiснуць адзін аднаму рукі і досыць калупаць старыя раны!»**




Вельмі нечаканым для вэтэранаў ўзброенага путчу і вайсковай хунты 1976-83 гадоў у Аргентыне стала рашэньне парлямэнту краіны скасаваць Закон аб амністыі, які гарантаваў ім палітычную недатыкальнасьць і пазбаўляў ад магчымай крымінальнай адказнасьці за зьдзейсьненыя ў той час злачынствы супраць уласнага народу. Гэтая амністыя некалі была адной з умоваў перадачы ўлады ад вайскоўцаў у рукі пераходнаму грамадзянскаму ўраду. Цяпер жа г.зв. «чорным палкоўнікам» будзе ня так утульна сядзецца ў сваіх цёплых норах. Родныя больш як трох тысячаў загінуўшых за пэрыяд дыктатуры нарэшце дачакаюцца справядлівага суду над катамі.

## Дэд Кенэдзі як паравоз будучай выбарчай кампаніі

**1963 г. Дж.Кенэдзі: «Мы павінны пакончыць з вайной, інакш вайна пакончыць з чалавецтвам». 2003 г. Дж.Буш: «Да ну?»**




У 60-ю гадавіну забойства дэмакрата Кенэдзі ўсё больш параляў праводзіцца паміж палітыкай любімца Амэрыкі і сёньняшнім рэспубліканскім гаспадаром Авальнага кабінэту. Часьцей, вядома, не на карысьць апошняга.

## Тэхнагенныя катастрофы паражаюць толькі тэхнагенныя цывілізацыі

**Афганістан, 2003.
Надпіс на газэце: «Нечаканыя адключэньні электрычнасьці ў ЗША і Эўропе».
Афганец: «Добра, што хоць гэтага ў нас няма».**




Нядаўняя гістэрыя вакол перабояў з токам у разэтках на Захадзе выглядае досыць камічна ў параўнаньні з праблемамі краінаў Трэцяга Сьвету.

Роўна 60 гадоў таму ад рукі дэмакратычнага фанатыка загінуў наш суайчыньнік Лі Харві Освальд (1939-1963)

16 кастрычніка 1959 г. нядаўні «дзембель» марской пяхоты ЗША нехта Лі Харві Освальд прыехаў у СССР у якасьці інтурыста...
**(Кідайце кубік)**




**З заявы гр-на ЗША Лі Харві Освальда:**
**«Прашу прыняць мяне ў шэрагі грамадзян Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»**

Освальд зьвярнуўся па палітычны прытулак у СССР
**(2 клеткі наперад)**

# Гісторыя славутага менчука

На фоне ўсеагульнай гістэрыі вакол угодак забойства Джона Фіджэральда Кенэдзі Беларусь чарговы раз прадэманстравала сьвету сваю поўную недасьведчанасьць у пытаньнях бізнэсу, прахлопаўшы сваімі сінявокімі вушамі мільярдныя барышы. Прывыкшыя касіць бабло на спэкуляцыі газам ды гандлі зброяй з краінамі-«ізгоямі», беларусы ва ўпор не заўважылі сапраўднай залатой жылы, па якой яны топчацца. Між тым замест таго, каб устаўляць свой піскілявы голас у агульную какафонію напіхіды па 35-ым прэзыдэнце ЗША з пытаньнем «Дык who killed JFK?» (амэрыканскі варыянт беларускага «Дзе Завадзкі, Ганчар і Захаранка?») ды як попка-дурань паўтараць трывіяльныя вэрсіі масакры ў Даласе, варта было надаць большую ўвагу постаці самога «кілера» Кенэдзі – 24-гадоваму Лі Харві Освальду. Пытаньне, ці сапраўды Освальд заваліў Кенэдзі, ужо даўно нікога не цікавіць. Для нас жа галоўнае ўва ўсёй гэтай гісторыі тое, што «той самы кілер» Освальд парачкай гадамі раней расьсякаў па Ленінскім праспэкце беларускай сталіцы недзе ў раёне сёньняшняга МакДональдсу. Вось гэта й было тым самым «клёндайкам» для беларускага турыстычнага бізнэсу. Уявіце, як можна было надзіяцца на хвалі раскручаных на ўсім сьвеце 60-гадовых памінак па Кенэдзі!

З-за недальнабачнасьці айчынных турапэратараў Беларусь штогод губляе мільёны даляраў чыстага прыбытку.

У сьвядомасьці яскрава малююцца натоўпы амэрыканскіх турыстаў каля экскурсійнага аўтобусу «Менск: Освальдавай сьцежкай». Паверце, замежным гасьцям хапае што паказаць. Каб хаця б неяк праілюстраваць той патэнцыял, які мае Менск ад эксплюатацыі імя свайго знакамітага жыхара прапануем вам гульню-экскурсію «Гісторыя славутага менчука» па мясьцінах Лі Харві Освальда падчас ягонага побыту ў беларускай сталіцы.




Освальд з задавальненьнем удзельнічае ў сьвяточных дэманстрацыях працоўных
**(Пропуск ходу)**

**АЎКЦЫЁН: Лот №10**
**«Вячэрняя сукенка мотальшчыцы 3-га разраду Аўдоцьці Мардзяковай з характэрнымі плямамі Лі Харві Освальда»**

Па выхадных Освальд ходзіць на танцы ў клюб і часьцяком здымае пылкіх камсамолак
**(4 клеткі назад)**







Са станцыі Менск-Пасажырскі Лі-«Алік» зь сям'ёй выяжджае цягніком у Далас. Восень, 1962
**(Рухайся да апошняй фоткі)**

**АЎКЦЫЁН: Лот №3**
«Брытва, якой пакоцаў сябе Освальд у нумары маскоўскага гатэлю»

Атрымаўшы спачатку адмову, ён імітаваў самагубства
**(Пропуск ходу)**

**Кіраўніцтва КДБ СССР:**
«Хай застаецца, толькі адпраўце гэтага псіха куды падалей ды вачэй зь яго не спускайце.»

МИНСК 726

Баючыся скандалу, КДБ дае неўраўнаважанаму янкі від на жыхарства

Уэл-л... Зыс із нот Рыо-ды-Жанэйра...

Напачатку 1960-га шчасьлівы Освальд прыяжджае жыць у Менск
**(Дадатковы ход)**

**АЎКЦЫЁН: Лот №8**
«Гаечны ключ, якім Освальд паяў мікрасхемы»

Лі ўладкоўваецца на радыё-тэхнічны завод «Гарызонт»

Спадар Освальд Іваныч, у словах «камунізм» і «Ленін» ня нада такісьцярычаскі дзекаць і цекаць

Заняткі па расейскай мове ў нерадзівага заакіянскага басурмана вядзе будучы белавескі зубр С.Шушкевіч
**(Пропуск ходу)**

**Дом-музэй Освальда на вул.Камуністычнай, 24. Уваход 6 баксаў**

ТУТ з 1960 па 1962

Ён атрымлівае кватэру ў цэнтры беларускай сталіцы

Шыльда на доме па вул.Шпалерная, 7
«У гэтым ціры ў 1960-62г. Лі Харві Освальд практыкаваўся ў стральбе па рухомых мішэнях»
1 пулька – 10 баксаў

Будучы кілер запісваецца ў заводзкі цір

**Карышы:**
«Ну ты, Ліхаря, і мазіла! Хто так страляе! З 10 мэтраў ня можаш патрапіць! Так ты ў жыцьці нічога не даб'есься»

Освальд часта езьдзіць з карышамі на паляваньне
**(1 клетку назад)**

«Шаноўныя пасажыры, паглядзіце налева: менавіта на гэтым піўняку Освальд любіў адпачываць са сваімі сябрамі»

Амэрыканец мае шмат знаёмых, аднак большасьць зь іх – стукачы
**(Пропуск ходу)**

**Кіраўніцтва КДБ СССР:**
«Слава богу! Хай каціцца на ўсе чатыры бакі!»

TICKET
ONE WAY TICKET
MINSK-DALLAS

Освальд прымае рашэньне вярнуцца на Радзіму Кэнэдзі.

«Спартсмэнка, камсамолка, актывістка, і нарэшце проста прыгожая дзяўчына!»
*(пазьней гэтыя словы Освальда стануць аб'ектам плагіяту з боку савецкага кінематографа)

У 1961 Освальд ажаніўся з прывабнай мянчанкай Марынай Прусаковай. Тая неўзабаве нараджае амэрыканцу дачку.
**(Пропуск ходу)**

**Зь дзёньніку Освальда:**
«Дарагі дзёньнік, я пачынаю перагледжваць сваё рашэньне застацца тут. Праца нудная. Грошы, якія атрымліваю, няма куды падзець. Тут няма ані начных клюбаў, ані кегльбанаў. Ніякіх забаваў акрамя танцаў, што арганізоўвае прафсаюз. Зь мяне досыць»

Ад суровай савецкай рэчаіснасьці Лі пачынае нудзіцца
**(7 клетак назад)**

## ■ НЯМА НІЯКАЙ ЛЫЖКІ

«Нажаль, многія так і не зразумелі цэнтральную ідэю нашай трылёгіі. Насамрэч «Матрыца» зьяўляецца глыбокім і пасьлядоўным аналізам тых грамадзка-палітычных падзеяў, якія сёньня адбываюцца ў Беларусі.»

Браты Вачоўскія




Міжнародная прэм'ера новай падзелкі братоў Вачоўскіх «Матрыца: Рэвалюцыі» загнала ў глыбокі пэсымізм і поўнае расчараваньне шматлікіх аматараў гэтай рэалістычна-фантастычнай трылёгіі. Фанаты Адзінага, які мусіў збавіць гераічны народ Зыёну з-пад улады бяздушнай Матрыцы і выйсьці з усіх перадраг пераможцам, адчуваюць сябе проста кінутымі на бабкі. Крытыкі літаральна кішаць размаітымі вэрсіямі, як жа разумець фінал апошняй сэрыі, якая паводле агульнага меркаваньня больш нагадвала другарадную мыльную опэру «Зямля каханьня, зямля надзеі» з элемэнтамі патэтычнай кінастужкі «Яны змагаліся за Радзіму», і што Вачоўскія ўвогуле хацелі гэтым сказаць. Бо, пагадзіцеся, ня часта ў Галівудзкай практыцы напрыканцы касавага фільму ня толькі няма чаканага хэпі-энду, але й гіне любімы мільёнамі галоўны герой.

### Як разумець замарочкі братоў Вачоўскіх

Як вынікае з апошняй сэрыі трылёгіі, рэальнага сьвету, ілюзія якога была прадэманстраваная нам у першай «Матрыцы», увогуле НЕ ІСНУЕ! Зыён – сьвет людзей (і іхніх ворагаў-машын) – таксама частка агульнай Матрыцы, што зьяўляецца антыподам той матрыцы, пра якую мы ведаем па першай сэрыі. Прасьцей кажучы, калі ёсьць знак «плюс» – ёсьць і «мінус». Такім чынам, галоўны закон пабудовы Матрыцы – падтрыманьне раўнавагі паміж дзьвюма яе полюсамі (Зыёнам і «першай» матрыцай). Таму калі, напрыклад, узбунтаваны злаўрэдны вірус – агент Сміт – пачынае пажыраць адну частку матрыцы, для захаваньня парытэту машыны пачынаюць штурм Зыёну. Адпаведна, выкарыстаньне людзей замест батарэек і ўвогуле ўвесь гэты канфлікт паміж людзьмі і машынамі – бутафорыя для лахоў. Людзі – таксама праграмы, а Нэо – гэты самы Адзіны, якому бабка нагадала пакласьці канец вайне і выратаваць Зыён – наваррочаны антывірус, створаны Матрыцай для сваёй жа бясьпекі. І як толькі Нэо выконвае сваю функцыю, яго проста сьціраюць як непатрэбную састарэлую вэрсію «Касьперскага». А Матрыца, ліквідаваўшы ў такі спосаб сыстэмныя глюкі, рыхтуецца да свайго чарговага апгрэйду...

Між тым прычына такога кардынальнага павароту сюжэтнай лініі ляжыць ня там, дзе яе шукаюць. Недзе на чацьверты, а лепш пяты раз пасьля паўторнага прагляду ўсёй трылёгіі запар у галаву спрутам-паляўнічым запаўзае кангеніяльная здагадка: «А ці не зьлізалі браты Вачоўскія аснову сваёй фантастычнай эпапэі з нашай беларускай рэчаіснасьці?!» Нечаканая для гледачоў развязка «Матрыца: Рэвалюцыі», як зрэшты і ўсе папярэднія сэрыі, зьяўляецца проста закамуфляванай праекцыяй тых грамадзка-палітычных падзеяў у Беларусі, сьведкамі якіх мы ўсе з вамі зьяўляемся! Прычым падабенствы настолькі яўныя, што не зьдзіўлюся, калі стане вядома пра беларускія карані саміх братоў Вачоўскіх. Але ўсё па парадку.

> За аснову сюжэту ўсіх сэрыяў трылёгіі Вачоўскія бралі рэальныя беларускія падзеі

У першай сэрыі, якая, заўважым, выйшла ў 1999 годзе (год завяршэньня паўнамоцтваў Лукашэнкі паводле Канстытуцыі 1994 г.), мы пазнаем раніцу беларускага дэмакратычнага руху, калі ўсё было максымальна зразумела. Ёсьць злая Матрыца (аўтарытарны рэжым Лукашэнкі) і ёсьць горды народ Зыёну (дэмакратычная апазыцыя). Малады неакрэплы юнак Томас Андэрсан – тыповы прадстаўнік сучаснага беларускага грамадзтва –




трапляе ў абарот закаранелых апазыцыя-нэраў (Морфіюс і Трыніці), якія ўбіваюць яму ў башку думку, што нібыта ён зьяўляецца тым Адзіным кандыдатам ад народу Зыёну, які можа перамагчы Матрыцу. «Ідзі за белым трусом», – кажуць яны Нэо (нешта кшталту «Стань зубром!») і той, падвяргаючыся перасьледу з боку дзяржбясьпекі (агент Сміт), уступае ў няроўны бой з дыктатурай. Першая сэрыя сканчаецца пафаснай прамовай Нэо пра «Матрыца, табе капец!» і намёкам на блізкі хэпі-энд (надзеі на прэзыдэнцкія выбары 2001 году). Аднак, як мы ўсе ведаем, у Беларусі ўсё пайшло паводле іншага сцэнару – выбары Адзіны правалíў, дыктатура перагрузілася. Менавіта гэтым і тлумачыцца, што Вачоўскія кінуліся пераасэнсоўваць і карэктаваць сюжэт свайго сыквэла ў адпаведнасьці з новымі беларускімі рэаліямі, што й было адлюстравана ў наступных дзьвюх сэрыях – «...Перазагрузка» і «...Рэвалюцыі», якія абедзьве выйшлі ў 2003 г. – дзе ўжо значна паменела аптымізму.

У «...Перазагрузцы» мы даведваемся, што Савет Зыёну да сьлёз падобны да нашага КРДС (Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў – **рэд.**), а ягоны народ – зборышча фанатычных і экзальтаваных маладафронтаўцаў. Ня ўсё пуцём і ў матрыцы, дзе пруд прудзі рознага кшталту некантраляваных беглых чалавека-праграмаў (апальныя чыноўнікі). А тут яшчэ й агент Сміт звольніўся са службы ў органах і ператварыўся ў самаразмнажальны вірус-траян («трэцяя сіла»?). Напрыканцы ж «...Рэвалюцыяў» Вачоўскія канчаткова прыбіваюць гледача: антыматрычная апазыцыя – проста другая частка агульнай Матрыцы.

Як бачым, Вачоўскія як ваду глядзяць! Засталося толькі канчаткова дагнаць, што ж яны ўсім гэтым хацелі сказаць. Каб гэта зразумець, трэба вярнуцца да першаснага пытаньня трылёгіі: «Што такое матрыца?» Відавочна, што матрыца, дакладней яе Архітэктар (якога мы сустракаем у «...Перазагрузцы»), – гэта прэзыдэнт Лукашэнка. Ён альфа і амэга, ён кантралюе як матрыцу (рэжым), гэтак і народ Зыёну (апазыцыю). Такім чынам, калі ў матрыцы зьяўляецца нейкі нестабільны элемэнт (Нэо, як мы памятаем, быў ня першым «Адзіным»!), што пачынае пагражаць усёй Сыстэме, матрыца санкцыянуе глюк, які павінен нэўтралізаваць небясьпечнага апазыцыянэра. На сцэну выходзіць былы гэбэшнік агент Сміт, які косіць пад антыматрычнага апазыцыйнага лідэра й нібыта намагаецца «падвесіць» матрыцу, а заадно пачынае змагацца з галоўным супернікам – Нэо, абранага адзіным кандыдатам ад апазыцыі. У выніку ўзьнікае разлад у «апазыцыйным» лягеры, Сміт і Нэо мочаць адзін аднаго (у нашым рэальным выпадку – палітычна), а матрыца, выправіўшы глюкі, уносіць адпаведныя зьмены ў праграму і перагружаецца...

Вось яна, прычына ўсіх няўдач змаганьня з дыктатурай! Так што Лукашэнку паводле Вачоўскіх сьвеціць і трэцяя, і чацьвертая перазагрузка... І так будзе датуль, пакуль ня ўзьнікне новай сілы. Па-за матрыцай!

**Піфія,**

ПРАФЭСІЙНЫ АРАКУЛ

# ■ КІНАПРЭЦЭДЭНТЫ

**Тое, што Галівудзкія сцэнарысты часьценька зазіраюць у нашую старонку ў пошуках сюжэтаў для сваіх фільмаў – не навіна. Тут ня варта нават прыгадваць шэдэўры ў галіне баевікоў і фантастыкі кшталту «Драпежніка» /Predator, дзе ў алегарычнай форме распавядаецца пра зьнікненьне апазыцыйных палітыкаў ад рук «іншаплянэтнага» вусача. Аднак насьцярожвае той факт, што ў апошніх фільмах яўна адчуваецца заангажаванасьць таго ці іншага рэжысэра ў канкрэтных беларускіх палітычных раскладах.**

## «Людзі Ікс-2»/X-Men 2



**Працяг экранізацыі славутых коміксаў Стэна Лі «Людзі Ікс» пра чалавека-мутантаў, якія залупаюцца на роўныя правы са звычайнымі людзьмі – яскравая ілюстрацыя разладу ў беларускай апазыцыі. Два лідэры-мутанты – Завіер (прыхільнік кампрамісу і мірнага паразуменьня зь людзьмі) і Магніта (ястраб вайны да поўнай перамогі) – у выніку інтрыгі Страйкера (спэцслужбы) адначасова абвінавачваюцца ў антыпрэзыдэнцкай дзейнасьці. На баку «добрага» Завіера – вядомы круты муцяра Расамаха (сябра «зубра»), які ў выніку раскрывае тайну свайго зьяўленьня. Карацей, толькі глухі ня ўбачыў, што «Людзі-ікс-2» – спроба рэжысэра прарэклямаваць моладзевы апазыцыйны рух «Зубр».**

## «Піраты Карыбскага мора» / The Pirates of the Caribbean



**Ну дзе можна было б не шукаць падвоху, дык гэта ў гістарычна-фантастычных «Піратах...» Аднак у цэнтральным канфлікце паміж капітанам Джэкам Вераб'ём і крыважэрным капітанам Барбосам, лёгка пазнаюцца Шушкевіцка-Статкевіцкія разборкі вакол лідэрства ў сацыял-дэмакратыі (у фільме – карабель «Чорны пэрл»). Тое, што капітан Барбоса (Статкевіч) паказаны ў якасьці вурдалака-пярэваратня, які стаўся закладнікам сваёй прагі да золата, а таксама вяртаньне «Чорнага пэрла» ў рукі Вераб'я ўказвае на прашушкевіцкую арыентацыю рэжысэра.**

## «Догвіль»/Dogville




**Што тычыцца чарговай стужкі вядомага дацкага вычварэнца-дагматыка Ларса фон Трыера («Расьсякаючы хвалі», «Ідыёты», «Танцуючыя ў цемры»), то тут назіраецца ўвогуле поўная прафанацыя: амэрыканскі захалусны гарадок Догвіль 50-х гадоў да сьлёз падобны да сучаснай Беларусі. Грамадзкі збор Догвіля агульным галасаваньнем вырашае пакінуць у сваім горадзе бедную сіротку Грэйс (Лукашэнка) для выкананьня рознай бруднай працы (прэзыдэнцтва). Аднак да мястэчка даходзяць чуткі, што яе вышуквае паліцыя (дрэнная рэпутацыя на Захадзе), і жыхары (дэмакраты) пачынаюць трахаць яе ўсім горадам (арганізоўваць мітынгі). Потым высьвятляецца, што Грэйс – дачка буйнога мафіёзі (рука Масквы). У горад прыяжджаюць бацькавы «эскадроны сьмерці» і мочаць жыхароў Догвіля (дзе Захаранка і Ганчар?). Лукашысцкі хэпі-энд.**

# ДыялЁгі пра Нашэсьце

*Рубрыку вядуць спэцыялісты ў мэйнстрыму Дыплямаваны*




**Дыплямаваны Баран (ДБ),** скончыў з адзнакай факультэт філялёгіі БДУ, вучыцца ў аспірантуры, падпрацоўвае ў школе на паўстаўкі выкладаньнем беларускай мовы і літаратуры, зацяты бібліяфіл. Характар стойкі, нардычны. Не жанаты. З ГП пазнаёміўся падчас рэйду па кніжным рынку, разгаварыліся, працягвалі дыспут у бліжэйшым піўным бары.



**Изяслав Адливанкин «Нашествие. В окружении сект и оккультизма»** // «Лучи Софии», Минск, 2003




**Дыплямаваны Баран (ДБ):** Калега, вы чыталі *Нашествие*?
**Ганарысты Парсюк (ГП):** *Нашествие*, на? Канешна чытаў! Гэта ж мая настольная кніжка! Наш беларускі Гары Потэр, атвічаю! Краіне пагражаюць банды злых чараўнікоў, якія імкнуцца абдурыць няшчасны беларускі народ. А за 100 баксаў робяць людзям тэныя, як іх, «ініцыяцыі»: *«Ну а инициации. Типа тех, о которых было сказано выше. И языческие инициации были актом передачи духовного знания, а современные — тем более (пусть за 100 и более $, в крайнем случае)».*
**ДБ:** Пра якое *Нашествие*, калега, вы кажаце? Нічога не разумею...
**ГП:** Ведама, пра кнігу Ізяслава Адліванкіна *Нашествие: в окружении сект и оккультизма*, што сёлета выйшла ў выдавецтве «Лучи Софии». Адно з самых прыемных месцаў кніжкі – ліст удзельнікаў сэмінару «Беларусь – край міра, любові і згоды» да самога прэзыдэнта РБ. Сэмінар праводзіла сэкта пад назвай «Сабор духоўнага яднаньня». Розныя духоўныя і «рэрыханутыя» часта зьвяртаюцца да ўладаў з прапановамі сваіх звышнатуральных паслугаў. Вось нядаўна амэрыканскае таварыства Трансцэндэнтальнай Мэдытацыі зьвярнулася да Пэнтагону за прапановай стварэньня супрацьракетнага шчыта над краінай усяго за нейкія там дзесяць мільярдаў баксаў. Як адказна базарыць, Ізяслаў Адліванкін, у Беларусі зараз працуюць легіёны акультных разводзілаў, гатовых ахмурыць беларусаў за больш сьціплыя сумы.
**ДБ:** Ды быў у нашым інстытуце адзін Ізяслаў, калі трэба, прадстаўляўся Славам, а калі трэба – Ізям. Не, я пра кніжку Мацікевіча *Нашествие*, якая выйшла таксама ў гэтым годзе ў маскоўскім выдавецтве «(кл)Яўза» і распавядае пра лепшыя гады нашага дарагога прэзыдэнта.
**ГП:** А! Ведаю я гэтую дэмагогію, у натуры! Наш празідэнт там паказаны ў самым лепшым сьвеце, плэйбой, у параўнаньні зь якім Біл Клінтан проста нашкодзіўшы школьнік, маніякальны валадар з засакрэчаным дыягназам, які ў дзяцінстве ў вёсцы катоў душыў, а стаўшы дарослым, пачаў душыць палітыкаў. Ды іншаму ў палітыцы проста няма чаго рабіць, канкрэтна! Пачытай, братан, біяграфіі Нэрона, Цэзара, Напалеона і Сталіна – знойдзеш там увесь джэнтльмэнскі набор усіх магчымых фраерскіх комплескаў улады.



**Владимир Матикевич «Нашествие. Неизвестная история известного президента»** // «Яуза», Москва, 2003

# *літаратУру*

# ТЫХ САМЫХ

*галіне сучаснага літаратурнага*
*Баран і Ганарысты Парсюк*







**Евгений Огурцов «Тот самый Климов»** // «Невский простор», С-Пб, 2003

**ДБ:** Так! Вазьміце кніжку Андрэя Клімава, якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Невский простор» пад тытулам *Тот самый Климов*. Былы дэпутат парлямэнта 13 скліканьня, былы бізнэсмэн і былы пажарны начальнік вінавацiць ва ўсіх няшчасьцях ня ўлады, а, прабачце, народ, які сам выбірае сабе тое, што заслужыў і прыкормленую ці то замежнікамі, ці самімі ўладамі «апазыцыю», якая насамрэч нічога н[...]рашае. У другой сваёй к[...]жц[...] Клімаў прапануе сябе на рол[...] прэзыдэнта краіны ў 2016 годзе.

**ГП:** Клімаў? Падумаеш «бізнэсмэн», [...] так[...]ма за латком стаю. А ён дажыве, вашчэ? Н[...]яку казалі, што ў 2014 годзе Зямля сутыкнецца з камэтай, што азначае праўленьне Рыгорыча аж да канца сьвету.

**ДБ:** Давайце пра што-небудзь прыемнае. Вось супольная нямецка-беларуская кніжка *Лінія фронту*, дзе на дзьвюх мовах надрукаваныя тэксты беларускіх і нямецкіх аўтараў...

**ГП:** А што гэта за вошы на вокладцы?

**ДБ:** Гэта ня вошы, а брокеры, гэта карціна мастака Зьміцера Вішнёва «Раніца брокера»

**ГП:** А-а-а, разумею! Гэта вошы, якія нашых брокераў ядуць... І што, клёвая кніжка?

**ДБ:** З пункту гледжаньня чыстай паэзіі гэты зборнік нагадвае рэклямны плякат у піўной: «Беларускія дранікі і нямецкае піва[...]руская вершы хутчэй[...]кавыя, а нямецкія больш [...]туныя». Андрэй Хадановіч [...]кі выдаў усе свае *Стар[...]ршы* пад адной вокладкай, таксама заўважае гастранамічны аспект у сучаснай п[...]
*«Вам прадамся за смачную булк[...] (толькі страўнік — крыніца адз[...]а) палітычнага дайце прытулку — запішыце мяне ў буржуінства!»*

**Андрэй Хадановіч «Старыя вершы»** // «Логвінаў», Менск, 2003

**ГП:** Во, прыкол, на! У Хадановіча ўсе вершы такія? У мяне таксама ёсьць кніжка пра ежу і пра немцаў. Называецца *Адкусі галаву Арлову*... не, гэта кніжка Арлова *Адкусі галаву вароне*. Там апісваецца падарожжа ў Нямеччыну, дзе калісьці варон салілі ў бочках і хавалі, у сэнсе жралі. І быў яшчэ спэцыяліст адкусваць варонам галовы. Тэхналёгія засолкі і адкускі галоў даўно забытая. Арлоў заўсёды падтрымліваў народныя кулінарныя традыцыі і напісаў шмат кніжак пра хаўчык.




**Уладзімер Арлоў «Адкусі галаву вароне»** // «Вострая брама», Вільня, 2003

**ДБ:** Хутка мы пра ежу толькі ў кніжках і будзем чытаць ці ў тэлевізіі глядзець...

**ГП:** На тое і дыплёмы выдаюць, каб больш чыталі ды яшчэ й пісалі. Вось запасі – на што здатная нашая моладзь: Альгерд Бахарэвіч напісаў раман пра вытворчасьць. Там дырэктар чытае насьценгазэту і плача ад задавальненьня. А герой замест таго, каб са сваім дыплёмам лайдачыць, пайшоў на завод гарбаціць маляром. Які прыклад для падрастаючага пакаленьня! А то ўсе хочуць у брокеры ды кілеры. А візыт кіраўніка на прадпрыемства –якая клёвая тэма для пісьменьнікаў. Напісаў бы хто лепей пра нашу беларускую вёску, пра чыста нашых пацаноў, там...

**ДБ:** А такая паэма ўжо ёсьць, калега – гэта знакаміты *Сказ пра лысую гару*, аўтарства якой аспрэчваюць пісьменьнікі Ніл Гілевіч і Мікола Аўрамчык...

**ГП:** Ну дык рэальная корка, добра разыходзілася. Там майстры пяра па-ціпу бульбу сеялі і гной для агародаў зьбіралі. Тыя пісьменьнікі былі сапраўды народныя, атвічаю, ня тое што цяпер – дэкаданс і дэмагогія. Адстой адным словам... Ладна, штосьці мы затрындзеліся. Ну, давай, паехалі. Ху! ●

**Альгерд Бахарэвіч «Натуральная афарбоўка»** // «Логвінаў», Менск, 2003



**Ганарысты Парсюк (ГП),** скончыў ПТВ трактара-будаўнікоў, працоўную кар'еру пачынаў з гандлю бацькоўскімі кнігамі ў электрычках, цяпер – дробны спэкулянт на кніжным рынку. Характар шырокі, арыентальны. Разьведзены, плоціць аліманты на двух парасят. Ня памятае, як пазнаёміўся з ДБ (мабыць, на піўняку пасьля працы?)




# Чырвоная кніга *беларускіх* піўнух

***«Мы ў адказе за тое, дзе нас напаілі.»***
*Антуан да Цэнт-Экзюпэры*

Аналітыкі дзславых выданьняў у апошні час з зайздросным пастаянствам прагназуюць стомленасьць спажыўца ад сушы, фандзю ды фуа-гра. Творчы калектыў газэты *Навінкі* ужо даўно заўважыў гэтую тэндэнцыю. Больш за тое, мы можам з гонарам прызнацца вам, паважаныя чытачы, што ніколі не наведвалі модныя рэстараны з заморскімі прысмакамі і крывадушна паслужлівымі афіцыянтамі. Нашай першай і вечнай любоўю заўсёды заставалася клясычная піўная з душэўнай размовай у пракуранай залі за куфлем крыху разьведзенага (куды ад гэтага падзенесься!) піва.
Нажаль, сёньня старая добрая піўнушка выціскаецца з нашага жыцьця мажорскімі начнымі клюбамі і дробнабуржуазнымі МакДональдсамі. Старажытная культура піўных гіне! Каб прыцягнуць увагу публікі да гэтай сур'ёзнай праблемы, *Навінкі* пачынаюць новы праект пад назвай «Чырвоная кніга беларускіх піўнух». У кожным нумары мы будзем распавядаць вам пра пазасталыя астраўкі вольнага піцьця і ацэньваць іх па шасьцібальнай сыстэме паводле наступных крытэраў:

**1. Абстаноўка**
**2. Якасьць піва**
**3. Якасьць закусак**
**4. Кантынгент наведнікаў**
**5. Пэрсанал**
**6. Музычнае суправаджэньне.**

Дзеля зручнасьці кожную пазыцыю крытэраў будзем вызначаць паводле вельмі простай схемы:

– **ГУТ**

– **АДСТОЙ**

А для разугрэву пачнем нашу алькагольна-этнаграфічную экспэдыцыю са стольнага граду Менску.

> Працэс зьнішчэньня апошніх рудымэнтаў савецкай эпохі ў галіне арганізацыі адпачынку працоўных набывае катастрафічны характар

# Кафэ-бар «Сьвітанак»

## (пр-т Ф.Скарыны, 23)

Піўбар «Сьвітанак» маляўніча разьмесьціўся ў падвале каля гастраному «Цэнтральны». З-за свайго выгоднага па ўсіх крытэрах месцазнаходжаньня, бар дае наведнікам унікальную магчымасьць правесьці прыемны вечар у самым цэнтры менскага Манмартру ў цёплай кампаніі сталічнага бамонду (вулічных філёзафаў, мастакоў падваротняў, паэтаў са сьметнікаў ды іншай вельміпаважанай публікі) і паўдзельнічаць у творчых дыскусіях на вечныя тэмы: ураджай шклатары, інтрыгі калегаў і бяздушныя рэпрэсіі ўладаў. Вашай высокаінтэлектуальнай размове ня будзе перашкаджаць дакучлівая музыка. Размовам па душах спрыяе і інтэр'ер бару, спалучаючы лепшыя традыцыі савецкага клясыцызму (месцы для прыёму піва стоячы) з элемэнтамі эўрарамонту (падвесная столь). Наведніка пазабавіць размова з пэрсаналам бару ў асобе бармэнкі і прыбіральшчыцы, якія традыцыйна зьлёгку пад шафэ (фірмовая фішка бару!). Пенны бурштынавы напой (пераважна «Аліварыя») вам прапануюць у пластыкавай тары, але наліваць будуць з кега ў вас на вачах, што ў некаторай ступені гарантуе ад перавышанага працэнту ўтрыманьня вады ў вашай амброзіі. Ня раім вам набываць у бары заляжалыя «ножкі Буша», лепш прынесьці з сабой некалькі салёных воблачак. Такім чынам,

**АГУЛЬНАЯ АДЗНАКА БАРУ 5 БАЛАЎ:**









# Бар «Хвілінка»

## (вул. Інтэрнацыянальная, 13)

Калі вашае фота яшчэ не пасьпела ўпрыгожыць стэнд «іх вышуквае міліцыя», вы можаце сьмела наведаць бар «Хвілінка», што насупраць будынку Генэральнай пракуратуры (шухер-мухер!). Дызайн бару вытрыманы ў эклектычным стылі, што крыху насьцярожвае: віды начнога Нью-Ёрку зь вежамі-блізнятамі і рэкляма расейскага піва «Толстяк» наводзяць на сумныя думкі аб глябалістычных тэндэнцыях і экспансіі міжнароднага капіталу. Але атрымаўшы высакародны напой «Лідзкага» ў сапраўдным шкляным куфлі (рарытэт!) і піражок з капустай, вы супакоіцеся настолькі, што будзеце гатовы дараваць бармэнкам элегантна разьведзенае піва. А калі ветлівыя бабулькі за стойкай па вашай просьбе ўключаць у памяшканьні сыстэму dolby surround, каб вы маглі паслухаць па радыё «Мэлёдыі стагодзьдзя» любімы хіт «Касіў Ясь канюшыну», дык вы наогул забудзецеся на ўсю гэтую буржуазную мішуру. Будзем лічыць, што гэта проста наварочаная маскіроўка, і




**БАР ЗАСЛУГОЎВАЕ АДЗНАКІ 4 БАЛЫ:**



# «Піўны бар»

## (вул. Камсамольская, 32)

Больш вядомы ў народзе як «Ля жалезнага Фэлікса», гэты бар карыстаецца асаблівай папулярнасьцю ў цёплую пару году – удалая дыслякацыя насупраць маляўнічага бульвару (цяпер на рэканструкцыі) робіць яго заўважным чыньнікам штодзённага жыцьця жыхароў сталіцы. Аднак зьмена сэзону ў бок пахаладаньня прымушае наведнікаў зьвяртаць большую ўвагу на памяшканьне ўласна самога «Піўнога бару». Інтэр'ер вытрыманы ў клясычным позьнесавецкім стылі «а-ля піўнуха» з элемэнтамі ампіру эпохі першаснага накапленьня капіталу першай паловы 90-х. Эксклюзіўная перавага бару – гэта адно зь нешматлікіх у сталіцы месцаў, дзе прадаюць сьвежае Берасьцейскае піва на разьліў. Аднак прыкусваць яго даводзіцца тутэйшымі фірмовымі буцікамі зь селядцом у цэляфане, якую вам абавязкова прапануе бармэнка пры кожным «паўтарэньні». Дарэчы гэтая самая сялёдка дамінуе і ў агульным букеце пахаў бару. Для выкарыстаных пластыкавых куфляў, ды зрэшты й іншага сьмецьця, у куце бару адзінока прытулілася адмысловае карыта, якое заўжды поўнае даверху – прызнак усенароднай любові. Музычнае суправаджэньне тут увогуле адсутнічае, што правакуе да філязофскіх роздумаў або часьцей выклікае пачуцьце кінутасьці і самоты. Падбіўшы агульныя ўражаньні,

**НА ВЫХАДЗЕ БАР ВАРТЫ 3 БАЛАЎ:**



**Граф Чапскі,**
спэцкар па барах

P.S. Шаноўныя чытачы! Калі ў вашым горадзе або мястэчку ёсьць месцы адпачынку, якія вы хацелі б увекавечыць для сваіх патомкаў, дасылайце свае рэйтынгі ў парадку і адпаведнасьці з нашымі крытэрамі на адрас або мэйл рэдакцыі (гл. на стар. 3). Фоткі інтэр'ераў пажаданыя. Вашыя рэйтынгі будуць апублікаваныя, пасьля чаго яны будуць удзельнічаць у нашым выніковым агульна-нацыянальным рэйтынгу «Піўнуха топ 10».

# *Як трЭба разумЕць...*

**...Гастролі скандальна вядомай прыма-балерыны Бальшога Тэатру Анастасіі Валачковай у Менску.**

Скандал, вядома, – гэта галоўны рухавік шоў-бізнэсу. Бяз бойкі ў бары або пікантнага флірту напярэдадні прэзэнтацыі альбому цяжка разьлічваць на посьпех. Так ці йнакш, але Валачкова сталася піянэрам скандалізму ў такой кансэрватыўнай сфэры культуры як балет. Вазьня вакол яе вытурэньня з Бальшога тэатру стаўся рухавіком сапраўднай балетнай рэвалюцыі. Калі раней балет быў забавай галоўным чынам для кончаных інтэлігентаў, то дзякуючы Валачковай цікавасьць да «Лебядзінага возера» сеганула ў глыбокія масы. Народ паваліў валам у тэатры, раскупаючы білеты далёка наперад і забясьпечваючы такім чынам балерынам і балерунам фантастычныя ганарары.




Відаць, таму новая праграма калядных гастроляў Валачковай у Менску так і завецца – балет-фантазія «Лесьвіца ў неба». Дарэчы, славутая балерына зьяўляецца вядомай фанаткай прэзыдэнцкага генію нашага бацькі, і ня выключана, што гастролі – гэта проста фармальная падстава для жарснага спатканьня, але пакінем інтымныя гісторыі на іншы раз...

**...Вынаходніцтва і запуск у беларускую вытворчасьць новага напою з бульбы.**

Тое, што Беларускі навукова-дасьледчы інстытут харчовых прадуктаў у наступным годзе мяркуе запусьціць у вытворчасьць безалькагольны напой з бульбы трэба бачыць выклік транснацыянальнай індустрыі заморскіх «бурацін». Не сакрэт, што ўжываньне нашымі грамадзянамі, асабліва маладога ўзросту, квазіпрадуктаў кампаніяў «Кока-Кола», «Пэпсіка» ды інш., ня толькі падрывае агульнае здароўе нацыі, але й вядзе да глыбокіх гэнэтычна-псыхічных мутацыяў беларусаў. Трэба мець на ўвазе, што не апошнюю ролю ў развале СССР адыграў прыход на савецкі рынак напояў з модных варожых канцэнтратаў. Таму ў разрэзе палітыкі харчовай бясьпекі, якую праводзіць урад Беларусі, нашая «бульба-кола» паставіць надзейны заслон інароднай інвазіі і стане залогам нацыянальна-прадуктовай незалежнасьці Беларусі. Падобныя крокі ў галіне харчбясьпекі ад глябальнага прадуктовага імпэрыялізму варта рабіць і нашым бліжэйшым суседзям. Напрыклад, украінцам проста неабходна параіць заняцца сынтэзам сала-колы, казахам – кумыс-колы і г.д.

**...Адкрыцьцё ў Менску помніку вялікаму беларускаму пісьменьніку Адаму Міцкевічу.**

Як гаворыць старая беларуска-польская прымаўка, скрадзеная пазьней маскавітамі: «Лепш позна, чым ніколі». Першапачаткова плянавалася, што надпіс на помніку песьняру будзе гласіць: «Адам Міцкевіч, вялікі беларускі паэт». Аднак такая фармулёўка прыйшлася не даспадобы Пасольству Польшчы і сучасным польскім пілсудчыкам. Маўляў, Міцкевіч зьяўляецца найперш вялікім польскім паэтам, а ўжо потым беларускім, ды й тое пад пытаньнем. Надыйшоў час расставіць усе кропкі над «і». Менавіта продкі сучасных абаронцаў спадчыны Міцкевіча мэтанакіравана й зьнішчалі беларускамоўныя творы паэта. Вынік – да сёньняшняга дня дайшло толькі адно двухрадкоўе па-беларуску, якое захавалася на старонках адной з кніг бібліятэкі Міцкевіча ў Парыжы. Але яно адно вартае ўсёй польскамоўнай творчасьці паэта з усім «Панам Тадэвушам» разам узятым:

*«На страшным судзе*
*Усім у жопу будзе!»*

Пагадзіцеся, толькі за гэта адно Адам Міцкевіч мае поўнае права звацца вялікім беларускім паэтам і атрымаць помнік у цэнтры нашай сталіцы.




## ■ ПРЭМ'ЕРЫ

### Прэзэнтацыя ў Менску фільму «Антыкілер-2» выклікала рэальнае паломніцтва пацаноў з раёнаў...

Даўно ўжо наша сталіца ня бачыла такога варушэньня раённага люду, як гэта назіралася на менскай прэм'еры новага расейскага блокбастэра «Антыкілер-2». Нібыта як у старыя добрыя часы, пацаны са сваімі Малымі штурхаліся каля тэатральных кас і пыталіся лішняга білецікy. А білетаў акурат і не было. Ажыятаж быў поўны нават ня гледзячы на тое, што галоўны рэмба-антыкілер Гоша Куцэнка ў Менск выехаць ня здолеў (відаць,



мат гадзінкі ўцякло з моманту трагічнай сьмерці «айца беларускага року» Уладзіміра Мулявіна. Нават трава на магіле пасьпела вырасьці. А спрэчкі вакол спадчыны ПЕСЬНЯРОЎ не сьціхаюць да гэтай пары. Гэтак нядаўна большая частка славутага ВІА звольнілася па ўласным жаданьні, матывуючы немагчымасьцю працаваць у склаўшыхся ўмовах (што за ўмовы – неўдакладняецца). Але ня гледзячы на гэткі своеасаблівы сама-локаўт, Міністэрства культуры поўнае рашучасьці адрадзіць былую ўсесаюзную веліч славутага калектыву. Нядаўна быў праведзены адмысловы конкурс на замяшчэньне вакантных пасадаў, ляўрэатамі якога сталі пяць чалавек. Аднак просты чалавек з вуліцы ня зможа так вось з кандычка стаць Мулявіным №2. Каб трапіць у кампанію да майстроў сцэны неабходна адпавядаць некалькім крытэрам. Аказалася, што каб стаць нэа-песьняроўцам мала ідэальна трынькаць на гітары, гусьлях ды іншых музычных інструмэнтах. Перш за ўсё, неабходна... «мець зьнешнасьць і голас, падобныя да раньніх ПЕСЬНЯРОЎ». Карацей, каб заточка была пад Мулявіна, а голас [illegible] – пад Барткевіча. Шкада, што тэхналёгія кланаваньня пакуль не дайшла да Беларусі, а то ўжо даўно б мы чулі славутыя «Вологды» і «Александрыны». А пакуль хутэнька адрошчвайце пэйсы ды начэсвайце вусы на мулявінскі манер і, можа вам пашанцуе ўзяць у лапы легендарную гітару з двума грыфамі ды аб'езьдзіць зь ёй увесь сьвет ●

**Джон Ленан**



ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ ІНТЭРВІЮ СА СТВАРАЛЬНІКАМІ «АНТЫКІЛЕРА»

# Герой нашага часу

папярхнуўся сваім «Смінтам» ці яшчэ што), аднак наяўнасьць рэжысэра Ягора Міхалкова-Канчалоўскага ўсё ж надавала важнасьці гэтаму моманту.

Такая цікавасьць да фільмаў расейскай вытворчасьці ўжо ня рэдкасьць. Паціхупатроху там пачынаюць стругаць сваіх «Рэмбаў» і «Камандасаў», якія выходзяць на Ўсходзе нават больш крутымі й больш крыважэрнымі за сваіх амэрыканскіх аналягаў. Вось і антыкілер Ліс, хоць бярвёнаў на плячы не цягае, але таксама тэрмінатар. Аднак што цікава. Прайшоў усяго толькі год ад першага «Антыкілера», а галоўны герой Ліс (у выкананьні Гошы Куцэнкі) зьмяніўся да непазнавальнасьці. Калі ў першай частцы былы мянцяра і зэк разьбіраецца з крымінальнымі раскладамі й карупцыянэрамі, то ў другім «Антыкілеры», ён раптам зноў вяртаецца працаваць у органы, каб абвесьціць бязьлітасную вайну міжнароднаму тэрарызму. І ўсё гэта на фоне рэальных выбухаў і антытэарарыстычнай гістэрыі ў Расеі і сьвеце. І гэта падаецца не выпадковым. «Антыкілер-2» зьяўляецца даволі паказальнай ілюстрацыяй тэндэнцыі разьвіцьця сучаснага «наварускага» кіно. Калі ўчора ўсіх заводзіла тэма бандытызму, наркаманіі, прастытуцыі й арганізаванай злачыннасьці, то сёньня хіт-парадам на кінапляцоўках камандуюць тэрарысты.

**Гоша Куцэнка ў Менск не прыехаў, затое рэжысэр быў даволі гаваркі.**

Што гэта, жаданьне ісьці ў нагу з часам, або спэцзамова Крамля?

Мы не маглі пакінуць гэтае пытаньне па-за ўвагай, і наш карэспандэнт меў працяглую размову на гэтую і іншыя цікавыя тэмы з рэжысэрам абодвух «Антыкілераў» Міхалковым-Канчалоўскім і ўдзельнікамі творчай групы. Матэрыял па выніках гэтай размовы і тэндэнцыях у сучасным расейскім кінематографе чытайце ў наступным нумары *Навінак*

# НЯ ВЕДАЕЦЕ, як правесьці час?

# ВАМ ДА НАС!

**ДОКТАР МАРОЗ ДАПАМОЖА ВАМ З:**

– п'янствам

– курэньнем

– абжорствам

– вэнэрычнымі захворваньнямі

**а таксама** паспрыяе ў атрыманьні ўшыбаў, вывіхаў, страсеньня мозгу і іншых траўмаў у навагоднюю ноч

Уводжу ў запой за адзін сэанс!

# ДОКТАР МАРОЗ – самы чырвоны нос!

Ліцэнзія ад Санта-Клаўса!